PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 27 (2042) ГОД XL БЕЛАСТОК 2 ЛІПЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## У патоках сонца і дажджу...

... у беластоцкім амфітэатры праводзілася сёлетняе Свята беларускай культуры. Васемнаццатага чэрвеня запоўніўся ён па берагі аматарамі беларускай песні. Хоць свята называецца святам беларускай культуры, менавіта песня ёсць тут каралевай. Праўда, пры ўваходнай браме, пад разгалістым дрэвам стаялі столікі з беларускімі выданнямі, за якімі заселі Мікалай Гайдук, Міра Лукша, Віктар Швед, Васіль Петручук, Янка Целушэцкі, Міхась Хмялеўскі (з цёпленькім яшчэ зборнікам „І так бывала") і ў пачатку мерапрыемства Алесь Барскі, выданнямі „Белавежы", Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" і іншымі госці асабліва не цікавіліся або абяцалі заглянуць перад выхадам (а выбягалі ў струмянях дажджу і не да кніжак ім было). Дарэчы, няшмат, у параўнанні з мінулымі гадамі, прадалося і касет з запісамі беларускай музыкі. Прычынай таго, пэўна, быў той няшчасны дождж, які спачатку церушыў, потым ліў, а пасля імпрэзы хмары ўцяклі з-над Беластока, аддаўшы неба ва ўладанне яркаму сонцу („на вярхах", пэўна, не дамовіліся наконт надвор'я, ці не так?).

Дождж не змог выгнаць з амфітэатра людзей, а нават крычалі яны „jeszcze, jeszcze!", не выпускаючы са сцэны „Аса", хоць лівень бубніў у парасоны. Толькі жменька гледачоў мусіла пакінуць амфітэатр, найчасцей хто быў з малымі дзецьмі. Так што ў гэтым годзе аматараў і заўзятараў беларускай культуры было найбольш, у параўнані з іншымі гадамі. Праўда, адзін з гледачоў, спадар Ю. сказаў мне, што нічога новага тут не паказваюць, усё толькі паўтарэнні з мінулых гадоў, а толькі некаторыя калектывы апранулі ў новыя касцюмы.

Як сказаў на пачатку канцэрта старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, „беларуская культура ў Польшчы, гэта рэальнасць і багацце. Яна мігціць цудоўнымі беларускімі зоркамі, такімі як 44 школы ў якіх вывучаецца беларуская мова, два агульнаадукацыйныя ліцэі, многія пісьменнікі, выданні беларусіх кніжак, дзесяткі самадзейных калектываў, іх музычныя і мастацкія кіраўнікі, якія хочуць сёння паказаць перад вамі сваё прыгожае духоўнае мастацтва". Старшыня прывітаў гледачоў, запрошаных гасцей — назначанага ўрадам Беларусі на генеральнага консула Міхала Слямнёва і консула Ігара Хадасевіча і пасла ў Сейм Станіслава Малішэўскага ды пажадаў усяго найлепшага юбіляру, Міхасю Хмялеўскаму. Сямідзесяцігадовому (без пару дзён) спадару Міхасю раз-пораз гучалі пажаданні і прыгожа заспявалі яму Люба Гаўрылюк і Валодзя Іванюк песню „Падаюць зоры".

Імпрэзу вяла ўмела і апанавана спадарыня Валя Ласкевіч (апанавана, бо траплялiся неспадзеўкі такія, як незаказаны верш-агітка ў чэсць Аляксандра Квасьнеўскага ў выкананні Анны Раманюк з Паўлаў, які да слёз і спазмаў смеху давёў публіку). Пра кожны гурт вядучая сказала пару цёплых слоў, прыгадвала дасягненні, успамінала асобы заслужаныя ў яго творчым жыцці, а ўсё гэта рабіла коратка і неназойліва.

Найбольш папулярнай песняй была „Жаўраначка" ў выкананні розным і розных калектываў. Пачалі канцэрт нараўчанскія „Душкі з пушкі" ў вельмі сімпатычнай, дзіцячай праграме, адпаведнай да іхняга іміджу (такія тэксты, на жаль, не заўсёды ёсць у нараўскага „Пронару" (вядучы гурт пан Ежы Томзік ужо не гучыць са сцэны **Юрка** пасля таго, як нагаварыў за такое паганенне ягонага імя пані Ласкевіч). З дзіцячых гуртоў прыгожа выступіла „Журавінка" з бельскай „тройкі" і някепска калектыў з Гарадка (усё ж такі павінны яны спяваць пра *казку*, а не *сказку* Бая, як навучыла іх пані).

Калектываў было каля трыццаці — нашыя і гурт з Беларусі, віцебская

*Працяг на стар. 8*




*На сцэне амфітэатра красуюцца бельскія "Васілёчкі".*

## У МУТНАЙ ВАДЗЕ




— *Ці мужчыны з Рагачоў не крыўдзяцца за тое, што абзываеце іх „Rogacze"?* — пытаем у Гмінnай управе ў Мілейчыцах.

Пасля хвіліны маўчання чыноўнік усміхаецца.

— *А фактычна...* — наш размоўца заходзіцца смехам, — *не, не, мы з такой рэакцыяй яшчэ не сустрэліся.*

У Крынках з назваў не смяюцца, хутчэй за ўсё, абражаюцца. Справу магчымых зменаў пакідаюць ініцыятыве знізу, *która może być, ale najszybciej nie będzie*, як прадбачвае старшыня Гміннай рады **Багуслаў Марыян Панасюк**.

— *Nasi sołtysi wyśmieli tę propozycję,* — кажа працаўніца Гміннай управы. — *Я сама родам з Каменкі, дзе ніколі не было праваслаўных, а тут хочуць памяняць назву на Каменка. Або возьмем такія Гураны, якія пасля трэцяга раздзелу Польшчы трапілі пад Прусію і, у сувязі з гэтым, не было там ніякага беларускага асадніцтва.*

Крыніцай для вывучэння мясцовай гісторыі ў Крынках з'яўляецца кандыдацкая дысертацыя кс. Тамаша Бельскага.

*Zmiana nazwy kolonii Borsukowizna na Borsukowina staje sie bezprzedmiotową w związku z tym, że praktycznie wieś ta już nie istnieje, gdyż ostatni jej mieszkańcy, państwo Gryko, wyjechali w czerwcu 1984 roku,* — піша ваяводу войт Фабіян Цірук.

* * *

Справа спольшчаных назваў мясцовасцей усходняй Беласточчыны паяўлялася некалькі разоў. Пісаў пра гэта, між іншым, у 1982 годзе на старонках „Нівы" **Міхась Шаховіч**. Справу крануў у тыднёвіку „Палітыка" **праф. Ежы Тамашэўскі**. Але найбольш поўную дакументацыю сабраў **Яраслаў Яновіч**. Яго праца ў 1987 годзе была выкарыстаная З'ездам беларускіх студэнтаў у Бельску-Падляшскім, які накіраваў заяву ў Камісію па справах назваў мясцовасцей пры Управе Рады Міністраў. Водгуку на яе не было.

У пачатку мінулага года ва УРМ паступіла пісьмо ад Беларускага саюза ў Польшчы, у якім выказвалася патрэба вяртання спрадвечных беларускіх назваў ва ўсходняй Беласточчыне. Пасля адмоўнага адказу пайшла скарга ў Галоўны адміністрацыйны суд. Скарга была адхілена, але міністэрскія ўраднікі ў канцы заўважылі праблему і занялiся ёю загадалі Ваяводскай управе ў Беластоку. Ваявода, у сваю чаргу, абавязаў аднесціся да гэтага гмінныя самаўрады.

* * *

Войт Мельніка ветліва паведамляе, што *nie należy szukać problemu jeśli go nie ma, ponieważ samorząd gminy ma rzeczywiście wiele palących potrzeb do zrealizowania.* У гміне абураюцца, што Рада Міністраў цераз Ваяводскую ўправу хоча на сілу ашчаслівіць жыхароў вёсак Мутная (афіцыйна Mętna, а ў мясцовай гаворцы Мутна) і Радзілаўка (адпаведна: Radziwiłłówka, Радiлоўка). Паводле іх, гэта толькі непатрэбна ўскладніць жыццё тамтэйшых людзей. Гмінная ўправа ў Мельніку не бачыць ніякай патрэбы кансультацый з насельніцтвам. У Кляшчэлях, Мілейчыцах, Дубічах-Царкоўных, Міхалове размо-

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Chorwaci nie krępując się zbytnio powrócili do symboliki Niezależnego Państwa Chorwackiego (NDH), marionetkowego tworu Hitlera, którego byli nadgorliwymi sojusznikami. Oficjalnym pieniądzem jest kuna, którą wprowadzono właśnie po raz pierwszy w faszystowskim Państwie Chorwackim. Ambasadorem Chorwacji w Argentynie został pan Rojnica, były komendant obozu zagłady w Jasenovacu, w którym chorwaccy ustasze zamordowali 700 tysięcy Serbów, Żydów i Cyganów. Poszukiwany przez aliantów jako zbrodniarz wojenny uciekł do Ameryki Południowej. Dziś jest wielkim autorytetem moralnym dla Chorwatów i głośno mówi, że powinni oni dokończyć dzieło, które rozpoczęli w 1941 r. Prezydent Tudjman, odznaczony właśnie dziewięcioma najwyższymi odznaczeniami państwowymi, dochodził do władzy pod hasłami Chorwacja dla Chorwatów. Zaraz po ogłoszeniu niepodległości parlament w Zagrzebiu pozbawił Serbów statusu narodu konstytucyjnego, zepchnął do roli czwartorzędnej mniejszości na ziemiach, które zamieszkiwali od wieków. Wtedy po raz pierwszy Serbowie postawili barykady. Serbowie nie potrafią nauczyć się od Chorwatów i Muzułmanów, że polityka polega na bezustannym zapewnianiu o swoim przywiązaniu do pokoju i robienia w praktyce czegoś zupełnie przeciwnego.*

*Polityka, nr 23*

* * *

*Białystok jest w istocie prowincjonalną pustynią kulturalną.*

*Kurier Podlaski, nr 128*

Нават „Кур'ер" часам праўду напіша, маючы на ўвазе таксама і ўзровень сваёй творчасці.

* * *

*Wszystkiemu winni są dziennikarze. To przez nich ludzie myślą, że jest gorzej, niż jest naprawdę. Premier Oleksy uważa, że nawet „Solidarność" jest mniej groźna dla procesu reform niż dziennikarze.*

*Z kolei Lech Wałęsa postanowił stanąć na czele opozycji antyrządowej, co jest wielce oryginalnym wkładem w ideę sprawowania urzędu prezydenta. Po obu stronach stoją siły blokujące reformy. Koalicyjny rząd ulega populistycznym naciskom i rozkręca inflację. Prezydent rozpala emocje nie proponując nic w zamian poza swoją osobą. To prosta droga do destabilizacji państwa i gospodarki. A przecież to dopiero początek kampanii wyborczej.*

*Gazeta Wyborcza, nr 133*

Няма сумнення, што грамадзян Польшчы чакае на працягу пару месяцаў кабарэ. Найцікавейшыя пункты праграмы будуць паказаны недзе ў кастрычніку.

* * *

*Seks w życiu polskich polityków odgrywa bardzo ważną rolę,* — сказаў Зыгмунт Бранярэк.

*Kurier Poranny, nr 128*

Co do tego też nie ma wątpliwości, bo oni ciągle coś p...

* * *

*Kierowca, który zginął w wypadku samochodowym w Łomży miał we krwi 9,5 promila. Jest to stężenie dwukrotnie przekraczające dawkę śmiertelną.*

*Kurier Poranny, nr 128*

Дзядзька, які павінен памерці ад перапою, ехаў сабе спакойна па горадзе і магчыма даехаў бы да хаты, калі б нейкае дрэва не вырасла яму на дарозе.

* * *

*Obecnie to instytucje finansowe (banki) ograniczają wolność człowieka i robią to skuteczniej niż kiedyś milicja czy bezpieka. W ustroju, w którym rządzi pieniądz, można tylko za jego pomocą sterować społeczeństwem, co trudno dostrzec prostym ludziom, którzy dotychczas widzieli tylko policyjną pałę.*

*Wprost, nr 24*

* * *

*Na Kwaśniewskiego będą głosować „rzodkiewki". Są to byli członkowie PZPR — na zewnątrz czerwoni, w środku biali.*

*Gazeta Współczesna, nr 111*

* * *

*Przed pomnikiem Lenina w Mińsku na kolanach stoi starsza kobieta i robi znak krzyża. Budzi to we mnie awersję,* — піша Юрка Хмялеўскі.

*Czasopis, nr 6*

Спадар Юрка, не падабаецца вам прарок з сям'і Ульянавых? Вы ігнаруеце самыя найлепшыя „чувства" савецкага народа.

* * *

*Powiem wprost — według mnie Sokrat na starość zmądrzał. Na wiele spraw patrzy już bez nacjonalistycznego zacietrzewienia. A przecież ten sam człowiek chciał kiedyś przyłączyć Białostocczyznę do Sowietów, walczył o napisy dwujęzyczne. Ale z kim on teraz będzie dyskutował, skoro sam przyznaje, że mniejszość białoruska żywiołowo niknie i niedługo pozostanie tylko garstka inteligencji. Jak tak dalej pójdzie język białoruski będzie rozbrzmiewał tylko w Krynkach przy ulicy Sokólskiej 11, czyli w domu Sokrata,* — піша з халуйскім задавальненнем вядомы публіцыст бульварнай прэсы Казё Семяняка.

*Kurier Podlaski, nr 129*

* * *

*Дзвюх матак не бывае, як і дзвюх родных моў. Валодаць замежнымі мовамі — прыкмета адукаванасці і культуры, грэбаваць роднай — гэта як адцурацца маці, якую не выбіраюць. Нідзе ў свеце мовы навучання не выбіраюць таксама.*

*Наша слова, н-р 18*

Нідзе ў свеце апрача Беларусі. Шчаслівы народ жыве ў сапраўднай дэмакратыі. Можна выбіраць усё, нават Бацькаўшчыну.

* * *

*Ужо сёння гаспадары Расіі запалохаыя. Яны нарэшце зразумелі якога джына выпусцілі з бутэлькі, калі далі Лукашэнку дазвол на рэферэндум. Неўзабаве пабачым, як пазбаўляюцца ад марыянетачных прэзідэнтаў. Гэта добра вядома з вопыту тых афрыканскіх краін, дзе звычайнай стала змена сцягаў.*

*Свабода, н-р 21*

# З мінулага тыдня

**Камітэт правоў чалавека і грамадзяніна і нацыянальных спраў літоўскага парламента крытычна паставіўся да рапарта аб сітуацыі польскай нацыянальнай меншасці ў Літве**, распрацаванага Галоўным праўленнем Саюза палякаў у Літве, і заявіў, што „не супадае ён з рэчаіснасцю і з'яўляецца дэзіфармуючай грамадства палітычнай праклямацыяй". У згаданым рапарце, між іншым, пішацца: „... у спосабе падыходу да польскай меншасці ў Літве не адбыліся прынцыповыя змены ад заканчэння ІІ сусветнай вайны. Незалежна ад палітычнага ладу усе кіруючыя групоўкі ажыццяўляюць адну мэту: максімальна паслабіць польскую грамадскасць у Літве ва ўсіх сферах дзеяння і правесці інтэнсіўную літуанізацыю рэгіёна, населенага польскай нацыянальнай меншасцю". На думку ГП СПЛ у адносінах да літоўскіх палякаў прымяняецца „маральны тэрор", а ў крайніх выпадках нават „насілле".

**Перад польскім пасольствам у Лондане** адбылася дэманстрацыя з удзелам прадстаўнікоў трох брытанскіх экалагічных арганізацый пад лозунгамі аховы **Белавежскай пушчы**. Праведзеная дэманстрацыя была актам падтрымкі для праводзімай у Польшчы акцыі аховы лясных рэсурсаў Белавежы.

**Унія яўрэйскіх студэнтаў з Вроцлава** паведаміла пракуратуру ў Гданьску аб злачынстве. У заяве студэнты абвінавачваюць кс. **Генрыка Янкоўскага** ў тым, што падчас казання заклікаў да нацыянальнай варожасці і да ганьбавання яўрэйскіх рэлігійных і нацыянальных сімвалаў. Супраць стаўлення зоркі Давіда на адной плоскасці са свастыкай пратэставалі прадстаўнікі Ізраіля і амерыканскіх яўрэйскіх арганізацый.

**Камісія Епіскапата Польшчы** па справах дыялога з іудаізмам папрасіла прабачэння ва ўсіх, хто адчуў сябе пакрыўджаным выказваннем кс. **Генрыка Янкоўскага**. Нядаўняе яго казанне аб зорцы Давіда выклікала абурэнне, паколькі змяшчала ў сабе антысеміцкія акцэнты.

Ва ўрачыстасцях у гонар **св. Ануфрыя**, заступніка мужчынскага манастыра **ў Яблачыне**, прымалі ўдзел паломнікі з Беласточчыны. Выйшлі яны са Свята-Ільінскага прыхода на Дайлідах і на працягу тыдня цераз Заблудаў, Бельск-Падляшскі, Грабарку і Мельнік пераадолелі 200-кіламетровы шлях.

З 1 ліпеня г.г. у **Беластоку** пачала дзейнасць **паліцыя працы**. Восем кантралёраў будуць змагацца з нелегальнымі работнікамі і несумленнымі работадаўцамі, якія такім чынам ашукоўваюць дзяржаўную казну. Мяркуецца, што 30% грамадзян Польшчы зарабляюць нелегальна, а іх заробкі састаўляюць сёмую частку статыстычнай зарплаты.

**У Беластоку** адбылося пленарнае пасяджэнне **Згуртавання войтаў гмін, бурмістраў і прэзідэнтаў гарадоў Беластоцкага ваяводства**, якога старшынёю абраны быў **Кшыштаф Юргель**. Галоўнай тэмай сустрэчы былі пытанні пераходу школ у распараджэнне самаўрадаў з днём 1 студзеня 1996 г.

**Гайнаўка** — самы забруджаны горад Беласточчыны. Да такой высновы дайшлі аўтары рапарта, распрацаванага Гарадской управай. Віноўнікамі забруджэння атмасферы з'яўляюцца 22 прадпрыемствы, заводы і ўстановы. У пачатку ліпеня Гарадская рада будзе займацца экалагічнай сітуацыяй у гэтым пушчанскім горадзе.

**На 41-м Мемарыяле імя Януша Кусацінскага**, які адбыўся ў Варшаве, высокую форму паказалі лёгкаатлеткі з Беларусі. У ліку пераможцаў апынуліся: **Алена Віноградава** — бег на 100 м (11,66 сек.), **Таццяна Казак** — бег на 400 м (53,07 сек.), **Наталля Духнова** — бег на 800 м (2,00,31 мін.), **Наталля Ігнацюк** — бар'ерны бег на 400 м (55,65 сек.) і жаночая каманда: **Салагуб, Вараблёва, Мальчан, Вінаградава** ў эстафеце 4 х 100 м (45,37 сек.).

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Успаміны Васіля Петручука пра яўрэяў з Беласточчыны.
- Як працавала кіно ў пяцідзесятыя гады — расказвае кінамеханік Аляксандр Бяглюк.
- Развітанне са школай у Ягуштове.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Ці пераможа здаровы сэнс?

Выканаўчы камітэт Партыі здаровага сэнсу распаўсюдзіў заяву да дэмакратычных партый, грамадскіх арганізацый і сумленных людзей рэспублікі, у якой адзначаецца: „Праведзеныя выбары ў Вярхоўны Савет і ўсенародны рэферэндум паказалі, што развал эканомікі і раскраданне дзяржавы будуць працягвацца і далей. Цярпенне народа будзе яшчэ правярацца пяць гадоў. Тыя краіны, у якіх як і ў нас будаваўся сацыялізм, сёння ўжо выйшлі з крызісу і пачынаюць жыць па-чалавечы. Выйшлі таму, што мелі палітычныя арганізацыі ды лідэраў, накіраваных на дэмакратычныя пераўтварэнні".

### Без заканадаўчай улады

Пасяджэнне старога Вярхоўнага Савета, якое адбылося 14 чэрвеня г.г., не прынесла спадзяваных прэзідэнтам вынікаў (дэпутаты не згадзіліся прызнаць дзейсным новы парламент пры кворуме 2/5 яго саставу). Такім чынам Беларусь застаецца без новага парламента, а прэзідэнт у рэваншы забраў дэпутатам амаль усе службовыя машыны, пакінуўшы ім толькі восем (астанія сорак восем перадаў саўгасам, калгасам і заводам).

### Адкрыццё без міністра

На адкрыцці Генеральнага консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне мелі прысутнічаць міністры замежных спраў абедзвюх краін. Беларускі бок праігнараваў справу і прыслаў у Гродна толькі віцэ-міністра Валерыя Цапкалу, які прамаўляў выключна на рускай мове. Спадарожнічаючаму міністру Уладыславу Барташэўскаму пасол РП у Менску Альжбета Смулкова карысталася польскай і беларускай мовамі.

### Прызнанне Сораса

Улады Беларусі, якія ў мінулым годзе праігнаравалі візіт вядомага амерыканскага фінансіста і мецэната Джорджа Сораса, цяпер адобрылі яго дзейнасць. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў лісце да Дж. Сораса напісаў: „Мы шчыра ўдзячны вам за падтрымку навуковых даследаванняў у Беларусі, за намер выдзеліць для тых мэтаў дадаткова 250 тысяч долараў ЗША. Кіраўніцтва РБ знойдзе магчымасць фінансавання на парытэтных асновах і ў эквівалентнай суме даследаванняў беларускіх вучоных па тэматыцы, якая будзе вызначана на аснове ўзгодненай працэдуры. Урад рэспублікі гатовы таксама разгледзець пытанне адносна адпаведнага падаткавага статусу выдзяляемых сродкаў".

### Паветранае пагадненне

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб заключэнні пагаднення паміж Міністэрствам абароны Беларусі і Міністэрствам нацыянальнай абароны Польшчы аб прынцыпах узаемных паветраных зносін ваенных паветраных суднаў абедзвюх дзяржаў.

### Замаруджаныя зарплаты

Выканаўчы камітэт Свабодных прафсаюзаў Беларусі выступіў з заявай па прычыне фактаў нявыдачы зарплаты на прадпрыемствах і ў арганізацыях рэспублікі, якія сталі пастаяннымі. У апошні час амаль усюды груба парушаюцца калектыўныя дагаворы ў той частцы, дзе абумоўліваецца зарплата і яе затрымка. СПБ выказаў заклапочанасць і пратэст супраць такога стану спраў, патрабуючы неўхільнага выканання калектыўных дагавораў.

### Асаблівыя прэміі

Новы від заахвочвання прыдумалі ў саўгасе Кармянскага раёна. Работнікам, якія выказаліся ў працы, апрача заработнай платы выдаюць яшчэ і пэўную колькасць спірту, што выпускаецца на саўгасным спіртзаводзе. Аднак новаўвядзенне не тычыцца ўсіх, а толькі тых, хто ў мінулым не меў выпадку парушэння працоўнай дысцыпліны. А ў Паставах чарговую зарплату на паасобных прадпрыемствах і арганізацыях выдалі жывымі свіннямі. Свежая свініна прыйшлася да густу. Але тым сем'ям, дзе муж і жонка працуюць у адным месцы, прыйшлося ламаць галаву: як і дзе захаваць у гарачае надвор'е сотню кілаграмаў мяса.

### Танная сіла

На кінастудыі „Беларусьфільм" пачаліся здымкі для кінакарціны „Маскоўская сувязь", галоўнай дзеючай асобай якой будзе маскоўская мафія з яе жорсткімі законамі. Кантракт з „Беларусьфільмам" заключыў вядомы амерыканскі кінарэжысёр і прадзюсер Менахем Голан перш за ўсё з-за таннай працоўнай сілы. Аплата працы тэхнікаў, асвятляльнікаў, аператараў, касцюмераў у Амерыцы або ў Маскве абышлася б значна даражэй.

### Кожны можа стаць ахвярай

Патэнцыяльнай ахвярай бязлітаснай мафіёзнай вайны выпадкова можа стаць кожны. Вось нядаўна а палове дзесятай раніцы ў Менску, на шматлюднай вуліцы ў цэнтры горада, узарваўся легкавы аўтамабіль „Форд", які належаў дырэктару малога прадпрыемства „Агрaпрамсервіс" Георгію Стойку. Шафёр, як потым аказалася быў ім сам дырэктар, загінуў на месцы. На шчасце ніхто іншы ад выбуху не пацярпеў. Усё сведчыць, што было гэта заказное забойства.

# У МУТНАЙ ВАДЗЕ

*Працяг са стар. 1*

вы з вяскоўцамі плануюцца, а дзе-нідзе ўжо праводзяцца, хаця без энтузіязму.

*— Чаму мае нас павучаць нейкі Яновіч з Лодзі?* — абураюцца паўсюдна. *— Ніхто ў нас яго нават не ведае.*

*— Не то, што Сакрата Яновіча,* — кажа войт Дубіч-Царкоўных, **Анатоль Паўлоўскі**, *— якога ў нас многія паважаюць.*

У гэтых гмінах падкрэсліваюць эканамічны аспект справы. Трэба ж мяняць дакументы, дарожныя ўказальнікі, пячаткі, а гэта ўсё каштуе. Тым больш, што часта справа ў адной літарцы.

У Кляшчэлях маладая жанчына падказвае яшчэ адзін спосаб: *А каб да афіцыйнай назвы дапісаць другую, гутарковую. Гэта было б і танна, і, думаю, людзі на такое хутчэй пайшлі б.*

Некаторыя прапановы змен нават сэнсоўныя, заўважаюць у гмінах. У Дубічах-Царкоўных спачатку не паверылі, што іхняе Круглэ афіцыйна называецца Krągłe.

*— Гэта то трэба змяніць,* — гаворыць войт. *— Ніхто ў нас такой назвай не карыстаецца. Мы нават пісьмы пішам на Круглэ.*

*— Не ведаю, як гэта будзе,* — падключаецца да размовы супрацоўніца, *— людзі баяцца сваіх назваў. Бывае, калі ў нас хлопцы ідуць у армію, то прыходзяць і просяць паставіць пячатку, каб слова „Царкоўных" не адбілася. Ёсць і такія, што пішуць пісьмы на Dubicze Kościelne.*

*— To już przez złośliwość,* — падсумоўвае войт.

* * *

*— Я ў гэтым наваколлі працую дваццаць гадоў,* — кажа сакратар Гміннай управы ў Міхалове, **Славамір Ёсько**, *— і не сустрэўся з такога тыпу патрабаваннямі. Мы тут мазгуем, як правесці тыя кансультацыі, каб нікога не абразіць. Тут, як вы ведаеце, мешаная тэрыторыя. Я думаю, што там, дзе большасць праваслаўных, змены могуць прайсці. Напрыклад у такой Біндзюзе.*

**Біндзюга** афіцыйна называецца цяпер **Bindziuga**, хаця і здараецца і **Będziuga**, а на дарожным указальніку каля Сушчы напісана **Biendziuga 2 km**. Даехаць туды можна толькі вузкімі пясчанымі дарогамі.

На другі дзень Тройцы вяскоўцы адпачывалі на лаўцы пад вішанькай. І адразу сталі нас накіроўваць у блізкую краму (у адной з хатаў), дзе надта ўжо добрае віно. Пра прапанову змены назвы сваёй вёскі нічога не чулі.

*— А навошта,* — перагаворваюцца, *— то ж і так усе ведаюць, што тут Біндзюга, а не якаясь там Będziuga. Пісаць, то іншая справа. Але няхай пішуць як сабе хочуць.*

*— О, вы беларусы, што ваш прэзідэнт вырабляе,* — прачнуўся не надта зарыентаваны, *— вы і ад усяго свайго адракаецеся, мовы, герба...* — дзядзька не дакончыў, бо ў столку адвалілася нага.

*— Лепш бы нас сфатаграфавалі,* — дапаміналася цётка. *— Нас, сюды, не думайце, і немцы прыязджалі фатаграфаваць.*

* * *

Марыян Багуслаў Панасюк: *Sam pomysł zmiany nazw miejscowości, jak i idące za tym kroki administracyjne naruszą i zaszkodzą symbiozie społeczności. Mniemamy, że wywoła to nastroje nacjonalistyczne, których skutki będziemy ponosili tu na miejscu, nie wdając się w rozważania historyczne. (...) W tym momencie historii i życia potrzebujemy właśnie spokoju i wzajemnego szacunku. Mile przyjmujemy pracę i pomoc z zewnątrz przy umacnianiu naszej „Małej Ojczyzny". Nasza Gmina boryka się z problemami bezrobocia, brakiem oczyszczalni ścieków i kanalizacji, złym stanem dróg, archaicznym systemem łączności i innymi.*

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота Міколы Ваўранюка**

P.S. Тэму будзем працягваць.

# Сенакос

Канчаецца час першага пакосу травы. Сялянам, хаця дапамагала ім тэхніка, было нялёгка з ім справіцца. Найбольш клопатаў прычыняла надвор'е. Бо ці не можа прывесці да злосці, калі, пасля амаль цэлага дня працы над падрыхтоўкай сена да збору, раптам ні з таго, ні з сяго пачынае падаць на сухую траву густы дождж. Можа 10 мінут не прайшло, калі 17 чэрвеня ў ваколіцах вёсак Астраўкі, Алексічы, Сяські, Гнецюкі Заблудаўскай гміны сонечнае неба замянілася ў рэшата, праз якое нехта зверху пераліваў возера вады. Была гэта субота. Да пенсіянераў, якія з'яўляюцца амаль выключнымі жыхарамі тых вёсак, з'ехаліся сыны, дочкі, унукі з Вялікага Горада Беластока. Усе забыліся тады, якія прафесіі выконваюць ад панядзелка да пятніцы. Лекары, інжынеры, настаўнікі, шафёры, спекулянты так спраўна валодалі віламі, граблямі, як быццам бы ніколі іх з рук і не выпускалі. Ужо некаторыя гаспадары ехалі вазамі, каб сухое сена забраць у пуню, і раптам уся праца аказалася дарэмнай. Сялянам гэта нічога новага. Прывыклі працаваць дарма, але іх нашчадкі праклінали ўсіх і ўсё. Дзякуючы іх суботне-нядзельнай працы, палова зямлі ў гэтай ваколіцы яшчэ не ляжыць аблогай. Ад часу, калі ліквідаваліся СКРы, на іхных загонах замест пшаніцы і жыта калышуцца нівы асоту і рамонку. На некаторых палетках красуецца малады лес-самасей. Нават прыгожа гэта выглядае.

Новым элементам краявіду з'яўляюцца нескошаныя лугі. Поле як поле, але сенажаць сяляне заўсёды цанілі. Пенсіянеры, калі нават адмаўляліся араць і сеяць, ніколі не пакідалі лугоў. Кожны трымае адну-дзве каровы, каня і трэба гэтай жывёле назапасіць сена на зіму, а і пасвіць яе пару летніх месяцаў. З году ў год паменшваецца аднак колькасць пенсіянераў, якія яшчэ ў змозе даіць кароў. І іх зялёныя палеткі ўжо некалькі гадоў не кранала каса.

Успамінаюць толькі, як калісь кожная сцяжынка, кожная дарожка была ачышчаная ад травы, бо безупынна пасвілі на іх жывёлу. Тады нікому нават у галаву не прыходзіла думка, што за нейкі час і поле, і сенажаць будуць ляжаць аблогай, а зямля застанецца без гаспадароў. Калі паміраюць вясковыя пенсіянеры, іх гарадскія дзеці і ўнукі найчасцей забываюцца нават пра хатку, у якой упершыню пабачылі свет. Той дождж, які прагнаў мяшчан з лугоў, толькі замацаваў у іх перакананне пра бяссэнснасць працы на зямлі. З году ў год будуць пашырацца палеткі, зарослыя рамонкам, асотам і кустамі.

**Васіль Кургановіч**

# Прыемная сустрэча

Нядаўна наведала мяне Зоя Ярашэвіч-Пераславец і прынесла сваю кнігу „Starowiercy w Polsce i ich księgi". Зоя, выпускніца бельскага Белліцэя і Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне па спецыяльнасці бібліятэкарства і навуковая інфармацыя, працуе бібліёлагам. Яе навуковыя зацікаўленні засяродзіліся на гісторыі кнігадрукавання, а асабліва кірылічнага друку ў XV—XVIII стагоддзях.

У кнізе даецца гісторыя стараверскага друку так у Каралеўстве Польшчы, як і ва Усходняй Прусіі. Апісваюцца таксама прыватныя кнігазборы, а таксама кнігазборы з маленнаў у Сувалках, Вадзілках і ў Вайнове. Кніга, аб'ёмам у 204 старонкі, каштуе 65 тысяч старых злотаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Панарама гмін усходняй Беласточчыны

У чэрвені выйшла з друку кніжка Яна Целушэцкага, якая з'яўляецца зборам манаграфій пра паасобныя гміны Беласточчыны. Дзевяць раздзелаў кніжкі прысвечаны гісторыі, гаспадарцы, культуры дзевяці гмінаў — Гарадоцкай, Міхалоўскай, Нараўчанскай, Нарваўскай, Гайнаўскай, Чыжоўскай, Чаромхаўскай, Кляшчэлеўскай, Дубіцкай.

Кніжку выдала Праграманая Рада тыднёвіка „Ніва" пры дапамозе Міністэрства культуры і мастацтва РП і самаўрадаў з Гарадка, Нараўкі, Чыжоў, Кляшчэляў, Чаромхі і Дубіч-Царкоўных. Другі том „Панарамы" аўтар рыхтуе на 1998 г.

**р.**

---

* Я. Целушэцкі, *Панарама гмін усходняй Беласточчыны,* Беласток 1995, сс. 135.
Кніжку можна купіць у рэдакцыі „Нівы".

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

## Непаслухмяныя вучні

Урокі Закону Божага на польскай мове праваслаўныя вучні старэйшых класаў сустрэлі непрыхільна. У Слабадзе дайшло нават да байкоту. Вучні пакінулі школьную залу, спявалі царкоўныя песні (напрыклад, „Прад Табою, мой Бог") ды не адказвалі на ўроку рэлігіі на польскія пытанні. А заняткі па рэлігіі вялі праваслаўныя святары. Якое ж было здзіўленне вучняў да іхніх бацькоў, калі праваслаўны святар, уваходзячы ў школьны зал, адразу забываў беларускую мову і пераўтвараўся ў польскага настаўніка, які да вучняў звяртаўся выключна на польскай мове. Айцец Віталій са Стаўбцоўскага прыхода паскардзіўся школьным уладам на непаслухмянасць вучняў на ўроках і ў выніку найбольш актыўных удзельнікаў байкоту з VII класа пакаралі паніжэннем адзнакі з паводзін. Навучальны год 1936/1937 са зніжанымі ацэнкамі закончылі м.ін. мой брат Язэп Пракаповіч, Аркадзь Недарэзаў, Аркадзь Садоўскі, Мікалай Капуста, Кастусь Васілеўскі, Вера Кожыч, Жорж Лебядзінскі.

Апальным вучням такім чынам была закрыта дарога да далейшай вучобы. І хаця двойчы здавалі яны экзамены, але за кожным разам не прымалі іх з-за „недахопу месц у школе". Тады Язэп Пракаповіч і Аркадзь Недарэзаў рашылі падацца на навуку ў Савецкую Беларусь, у Менск.

Гэтае адчайнае рашэнне ўзнікла як вынік слухання радыёперадач з Менска. У 1935 годзе мае бацькі купілі радыёпрыёмнік. Паслухаць гэты цуд тэхнікі збіралася ў нашым доме амаль уся вясковая моладзь і жыхары рознага ўзросту. Старэйшых цікавіла ўсё тое, што дзеялася па другі бок дзяржаўнай мяжы, паколькі пачалася там расправа над „ворагамі народа". На хвалях эфіру савецкія прапагандысты распавядалі пра шчаслівае жыццё грамадзян Беларусі, крытыкаваліся дзеянні польскіх улад, якія абвінавачваліся ў пашыранні беспрацоўя, абмежаванні свабоды беларускага насельніцтва ў Заходняй Беларусі, аб закрыванню дарогі беларускай моладзі да навукі. Часта ў эфіры гучаў верш Якуба Коласа аб нашай тут долі:

*А там за Сулою, па той бок граніцы,*
*Дзе звесілі дзюбы панура арлы,*
*Клянуць сваю долю, свой лёс*
*чужынцы*
*У панстве фашызму, крывавай імглы.*
*Лепшыя людзі загнаны ў падполле,*
*На „крэсах усходніх" пануе жандар.*
*За вольнае слова катуюць ды судзяць,*
*Вастрогі там поўны нявінных*
*ахвяр!!!*

У перадачах для моладзі гаварылася, што навука ў савецкіх школах бясплатная, дармовыя таксама інтэрнаты і харчаванне ў іх, а выпускнікам сярэдніх школ гарантуецца праца на заводах, прадпрыемствах і ўстановах.

Нашы юнакі пасля двухгадовых беспаспяховых намаганняў дастацца ў гімназію сталі збірацца на навуку ў Беларусь. Вывучалі беларускую літаратурную мову, правапіс, знаёміліся з літаратурай, гісторыяй і геаграфіяй.

У жніўні 1939 г. Аркадзь Недарэзаў, Язэп Пракаповіч, Васіль Смоўж, Іпаліт Шкляр, Анатоль Каробка, Аляксандр Карповіч і Вера Станкевіч (або Тункевіч) падаліся нелегальна ў Беларусь. Якое ж было іх здзіўленне, калі перайшоўшы ўжо на савецкі бок, пагранічнікі сустрэлі іх не хлебам і соллю, а толькі сабакамі. Здзічэлыя ротвейлеры накінуліся на ўцекачоў, парвалі на іх вопратку і пакусалі да крыві. Затым пагранічнікі аматараў „навукі і шчаслівага жыцця" перавезлі на пагранічную заставу ў Дзяржынску (Койданава), а пасля, як польскіх шпіёнаў, адправілі ў турму ў Менск. Пасля жорсткіх допытаў у засценках НКУС абвінавацілі іх у тым, што яны за намовай польскіх улад дабравольна перайшлі дзяржаўную мяжу, каб на савецкім баку праводзіць шпіёнскую і дыверсійную работу: падпальваць калгасы, ураджай, атручваць жывёлу. Некаторыя, пасля канвеерных допытаў, якія доўжыліся па 24-36 гадзін, прызналіся да закідаў і падпісалі пратакол.

Аркадзь Недарэзаў быў прыгавораны да 20 гадоў прымусовых работ з правам прапіскі і пакаранне адбываў на Калыме. Вызвалены быў у верасні 1941 г., трапіў у армію Андэрса і зараз жыве ў Канадзе. Семнаццацігадовы Язэп Пракаповіч атрымаў тры гады прымусовых работ і працаваў пры будове чыгункі Катлас—Варкута. Потым таксама папаў у армію Андэрса, шчасліва прайшоў вайну і пасяліўся ў Губіне ў Зялёнагурскім ваяводстве.

Васіль Смоўж, які прыгавораны быў да 20 гадоў работ без права прапіскі, восенню 1939 г. перадаў бацькам ліст, у якім напісаў, што яго прызналі арганізатарам шпіёнскай групы і прасіў паратунку. Мой бацька параіў старому Смаўжу звярнуцца за дапамогай да адваката Фабіяна Акінчыца са Стоўбцаў, вядомага беларускага дзеяча. Адвакат напісаў ліст, які адправілі Сталіну. Пасля двух-трох тыдняў Смаўжы атрымалі нейкі дзіўны ліст без пячатак, у якім было напісана: „Больше ты писем от своего сына не получишь". І так яно было. Васіль Смоўж ужо не адазваўся.

У снежні 1939 г. вярнуўся Анатоль Каробка і, мабыць, ён быў правакатарам, які даў абвінавачвыя для Смаўжа пакаранні. Адзіная ў гэтай групе дзяўчына прызналася, што яна пайшла за сваім нарачоным Аляксандрам Карповічам. Яе засудзілі на 8 гадоў, а хлопца на 10 гадоў. Пасля вайны А. Карповіч жыў у Англіі.

І вось у такі трагічны спосаб закончыўся шлях да навукі маладых беларусаў, якія, паверыўшы савецкай прапагандзе, папалі з агню ў полымя.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# Чаму адклікалі Георгія Таразевіча?

13 мая г.г. „Народная газета" змясціла кароткі артыкул, азагалоўлены „Слухи об отставке посла в Польше Георгия Таразевича преувеличены". „Слухі" аднак не былі „преувеличены" і пасол у сапраўднасці быў адкліканы „указам" прэзідэнта Лукашэнкі н-р 210 ад 2 чэрвеня 1995 г. 9 чэрвеня міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько афіцыйна напісаў Таразевічу: „прошу Вас завершить миссию в Польше до 17 июня с.г.". Дарэчы, міністр Сянько заявіў журналісту радыё „Свабода", што ён менавіта быў ініцыятарам адклікання Таразевіча за яго выказванні, несупадаючыя з палітыкай пануючай групы, якую ўзначальвае Аляксандр Лукашэнка.

Весткі аб адкліканні надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георія Таразевіча паказаліся ў шматлікіх беларускіх газетах і часопісах. Адначасова гэтую падзею адзначыла і польская прэса, з якой — як сказаў для „Нівы" пасол Таразевіч — упершыню даведаўся ён пра вырашэнне адносна яго асобы.

Прыгадаймa, што справа ідзе пра палітыка першага фармату, які займаў у свой час пост намесніка старшыні Вярхоўгага Савета СССР, быў адказны за нацыянальную палітыку савецкай імперыі, узначальваў найважнейшую парламенцкую камісію — бюджэту і фінансаў. Ад 1985 г. быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. У Беларусі амаль няма палітыкаў з такім вопытам. У суседніх дзяржавах — Літве і Украіне — людзі тае фармацыі цяпер пры ўладзе і рашуча абараняюць незалежнасць сваіх краін.

Чаму тады Лукашэнка вырашыў пазбыцца чалавека, які прадстаўляе беларускую інтэлектуальную эліту ў галіне палітыкі. Можна гэта тлумачыць і тым, што прэзідэнт прадстаўляе толькі калгасную эліту і любіць мець у сваім акружэнні служак тыпу Ціцянкова, які, каб зрабіць прыемнасць сваёму начальніку, рваў і ў прымітыўны спосаб апаганіў нацыянальны сцяг беларусаў. Георгій Таразевіч, ведаючы напрамак, у якім ідзе палітыка пануючай у Беларусі расейскай групы, выказаўся ў інтэрв'ю для „Народнай газеты" (6.05.1995 г.) супраць усім пытанням, вынесеным на рэферэндум. У існуючай сітуацыі быў гэта голас у падтрымку незалежнасці Беларусі. Ужо тады сярод журналістаў урадавых газет ішла шаптаная інфармацыя, што Лукашэнка і іншыя акружаючыя яго расейцы раней ці пазней адпомсцяць за гэта Таразевічу. Пасол Беларусі ў Польшчы як кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета прадставіў тады зусім іншую канцэпцыю будучыні дзяржавы, чым пануючая „вертыкаль". У інтэрв'ю для газеты „Свободные новости плюс" (н-р 20) ён выразна сказаў, што Беларусь павінна змагацца за свае інтарэсы з суседзямі, улічваючы такія козыры як геаграфічнае палажэнне, інтэлектуальны і тэхналагічны патэнцыял, які на былой савецкай прасторы прадстаўляў найвышэйшую якасць. З транзітных паслуг Польшча мае прыбытак велічынёю ў 6 мільярдаў долараў, — зазначыў Таразевіч. Беларусь таксама можа мець не меншы прыбытак з прычыны свайго палажэння. Тым часам усе гэтыя вартасці пастаянна зусім дарма аддаюцца суседняй краіне. *Я бачу несур'ёзнасць у нашай сённяшняй палітыцы. А перш за ўсё гэта неакрэсленасць паняцця: Хто мы? Суверэнная дзяржава ці вобласць Расіі. (...) Калі мы незалежная дзяржава, тады павінны сябе адпаведна паводзіць. Абараняць свае інтарэсы, у тым і ў адносінах са сваім старэйшым братам.*

Георгій Таразевіч шмат гадоў працаваў кіраўніком геалагічнай экспедыцыі ў Якуціі. Шукаў там між іншым нафты і газу. Палову яго дружыны складалі беларусы і ўкраінцы. Што з тае працы маюць цяпер беларускія геолагі, якія аддалі свой інтэлект у распараджэнне савецкай дзяржаве, калі ў канцы ўсё атрымала Расія? Якую карысць мае цяпер Беларусь з таго, што талент яе найлепшых сыноў працаваў у карысць савецкай імперыі? — пытае Таразевіч і зараз дае адказ: *Калі б мы разумна і рашуча абаранялі свае інтарэсы, праўдападобна не трэба было б цяпер на каленях прасіць свайго суседа і партнёра знізіць цану на энергарэсурсы і сыравіну.* („Савецкая Беларусь", 29.03.1990 г.)

У артыкуле ў „Новой экономической газете" (24—30.05.1995 г.) Георгій Таразевіч пісаў: *Реформировать экономические отношения нужно. Другого пути нет. И реформировать в интересах своего государства, своего народа, а не отдельных личностей, структур. И всё должно делаться разумно, публично. Чтобы народ знал, кто и что „приватизировал", за какие деньги. (...) Уверенно заявляю, что в бывшем Союзе с Беларусью считались больше, чем сегодня. Хотя штаб СНГ и размещён в Минске. Настало время подниматься с колен.*

Зразумела, што ўсе працытаваныя словы Георгія Таразевіча не маглі не выклікаць рэакцыі з боку лукашэнкаўцаў. Таразевіч, калі выказваўся для прэсы, праўдападобна ведаў, якія могуць быць паслядоўнасці свабоднага мыслення. Знаў жа, як ніхто, менталітэт саветаў. Выглядае на тое, што свядома вырашыў не прымаць удзелу ў працэсе ліквідацыі свае дзяржаўнасці. Але праўдападобна гэта яшчэ не канец яго палітычнай кар'еры.

**Яўген Мірановіч**

# Пасол гаварыў замнога

**17 чэрвеня скончыліся паўнамоцтвы пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы ГЕОРГІЯ ТАРАЗЕВІЧА. Дзень раней склікаў ён з гэтай нагоды прэс-канферэнцыю.**

„Перш за ўсё, за вашым пасрэдніцтвам, — гаварыў пасол польскім журналістам, — хачу падзякаваць уладам Польшчы, прэзідэнту, ураду, парламенту, усім палітычным сілам, прэсе, польскаму грамадству за добразычлівыя адносіны да нашай дзяржавы, а таксама за тую дапамогу і ўвагу, якія былі аказаны мне, як паслу Беларусі".

Георгій Таразевіч выконваў функцыю пасла адзін год. „Хацелася б думаць, што не горшым вобразам, — зазначыў ён. — На жаль, працэдура майго адклікання, мякка кажучы, не зусім цывілізаваная". Пра адкліканне ўжо 2 чэрвеня сказалі ў Беларускім тэлебачанні. 3 чэрвеня пра такое рашэнне прэзідэнта Лукашэнкі паведаміла польская прэса, з якое Таразевіч і даведаўся аб сваім лёсе. Афіцыйнае пісьмо атрымаў ён толькі 11 чэрвеня.

Галоўнай прычынай адклікання была, лічыць сам зацікаўлены, ягоная палітычная актыўнасць у час выбарчай кампаніі. „Нягледзячы на канстытуцыйнае права кожнага грамадзяніна Беларусі ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, — гаварыў Таразевіч, — каманда прэзідэнта ставіла розныя перашкоды. У прыватнасці, было сказана, што тыя асобы, якія назначаюцца прэзідэнтам, павінны былі на час кампаніі прыпыніць свае паўнамоцтвы. Механізм гэтай працэдуры ніхто не ўдакладніў. Таму „падуладныя" прэзідэнта самі шукалі выйсця з гэтага юрыдычнага казуса. Большасць тых, хто рашыў уключыцца ў выбарчую кампанію, ахвяравалі сваім водпускам і прыпынілі свае паўнамоцтвы, як гэтага патрабаваў прэзідэнт. Так паступілі і я. Такім чынам, у выбарчай кампаніі я выступаў публічна не як пасол у Польшчы, а як кандыдат у дэпутаты. І не толькі меў права, але павінен быў, паважаючы сваіх выбаршчыкаў, выказваць сваю палітычную пазіцыю, нават калі яна разыходзілася з поглядамі прэзідэнта".

Георгій Таразевіч не адказаўся ад ніводнага свайго слова, сказанага перад выбарамі. Яшчэ раз аспрэчыў мэтазгоднасць рэферэндуму, падкрэсліваючы, што такім шляхам не вырашаецца пытанне нацыянальнай мовы і дзяржаўных сімвалаў. Супрацоўніцтва з Расеяй трэба будаваць на партнёрскіх прынцыпах, а не муціць у галовах грамадзян пустымі абяцаннямі пра танныя энерганосьбіты. Ні нафты, ні газу Крэмль не дасць, бо гэтым у Расеі займаецца не ўрад, а камерцыйныя фірмы.

„Няўжо ў нас зноў сталі асуджаць за іншадумства? — пытаў Таразевіч. — Няўжо мы перасталі будаваць дэмакратычнае і прававе грамадства?"

Афіцыйная прычына адклікання — пераход на іншае месца працы. Гэтага месца, аднак, не ведаў ні сам зацікаўлены, ні міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько.

„Беспрацоўным не застануся, — гаварыў Таразевіч. — Палову свайго свядомага жыцця аддаў я палітыцы, але другую — сваёй асноўнай прафесіі геолага. У любы момант я магу вярнуцца да геалогіі". Хутчэй за ўсё, Георгій Таразевіч будзе працягваць палітычную кар'еру. Заявіў ён, што ў дадатковых восеньскіх выбарах будзе прымаць удзел. Увайшоў ён у другі тур парламенцкіх выбараў, які — з прычыны нястачы кворуму — у яго акрузе не адбыўся.

Калі пішу гэтыя словы, у Беларускім пасольстве ў Варшаве яшчэ не ведаюць прозвішча свайго новага шэфа.

**Мікола Ваўранюк**

# ДЭВАЛЬВАЦЫЯ СЛОВА

Ян Чыквін у нядзельнай перадачы „Пад знакам Пагоні" ад 18.06.1995 г. чарговы раз выказаў прэтэнзіі ў адрас „Нівы". Маўляў, газета не піша пра творчыя дасягненні „Белавежы", хаця калісь (зноў тое міфічнае „калісь", родам з залатога веку чалавецтва) рабіла гэта нават „звышактыўна", упамінаючы ўсякую літаратурную драбязу. Сама ў сабе прэтэнзія малаістотная і не вартая была б аднатавання, каб не ўпісвалася ў шырэйшы кантэкст.

Набздычанае літаратурнае асяроддзе надзвычай схільнае да абразы і ўзаемных прэтэнзій. Хтосьці сказаў пару не такіх як трэба слоў пра маю творчасць, дык я не запрашу яго на свой юбілей. Хтосьці піша не на маім узроўні, то я яму рукі не падам. А я не дам нічога на Чыквінаўска-Яновічаўскую літаратурную старонку, на злосць ім буду друкавацца ў „Ніве" па-суседску, у рубрыцы „Новыя вершы". А ўсе разам і кожны паасобку доўга і галосна абураюцца неадпаведнай працэдурай прыёму ў якісьці там саюз пісьменнікаў.

Здзіўляюць мяне толькі такія словы ў вуснах Яна Чыквіна, выдатнага паэта і прафесара. Тым больш, што як было відаць з далей сказанага ў гэтай самай праграме, Чыквін вядзе падрабязную хроніку „Белавежы" і таго што вакол яе дзеецца. Шкада толькі, што замест друкаваць гэтую хроніку ў „Ніве" і, такім чынам, пакінуць трывалы след, чытае ён яе ў эфір Беластоцкага радыё, інакш кажучы — у пустую. Я сумняваюся, ці хоць адзін слухач запамятаў, дзе і калі, у якім часопісе, хто і што напісаў пра „белавежцаў". Ніхто напэўна і натаваць не стаў сказанага.

Іншая справа, што разумець пад словам „дасягненні". Можна новыя творы, новыя літаратурныя адкрыцці, а можна і водгукі іншых на даўно напісанае намі.

Кніжная серыя „Бібліятэчка Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" была свежым подыхам пасля застойнага маналісцка-бэзэкатоўскага часу. Імпанаваў выдавецкі размах. Чалавек з прыемнасцю браў у рукі чарговыя паэтычныя зборнічкі, хаця пачаткова несамавітыя выглядам, але культурна адрэдагаваныя, цікавыя зместам. Потым кніжачкі папрыгажэлі, але, аказалася, што і выдаваць іх вельмі лёгка. Маеш крыху граша, бяры і выдавай. І „бібліятэчка" на фоне выдавецкай актыўнасці беларусаў Беласточчыны згубіла свой бляск самотнай зоркі, пашарэла.

Апошняе выданне „Белавежы", кніжка Сакрата Яновіча „Лістоўе" цікавая для мяне толькі з-за прыгожага афармлення Лёніка Тарасэвіча і майстэрства перакладчыкаў. Нічога аднак новага не ўносяць у літаратурны працэс старыя, добра вядомыя і па некалькі разоў і ў розных зборніках друкаваныя апавяданні.

Таксама кніжка „Дзверы" гэта, безумоўна, належнае падсумаванне творчасці Надзеі Артымовіч, але нічога новага. Тым больш, што каментары Алеся Разанава сапраўды толькі — карыстаючыся яго тэрмінам — „маргіналіі". Прыгожая кніжка, вартая, каб яе мець у сваёй бібліятэцы, але калі хто ўважліва чытае Надзю ад яе першага зборніка, дык знаходзіць тут ужо вядомае.

Затое, пра такі факт, як чатыры кніжкі Міры Лукшы, ціха.

Таксама пераклад Джойсавага „Улісa" Янам Максімюком — хаця яго значэння не параўнаць нават з дзесяццю публікацыямі пра нас праф. Гніламёдава ў „Полымі" разам з „Маладосцю" — застаецца па-за нашай увагай. Няўжо кніжка „зацяжкая"?

Слухаючы ранейшых гутарак Яна Чыквіна па радыё рабілася сумна, бо змарнаваў ён дасканалую нагоду для рэкламы беларускай літаратуры. Чыквін не хацеў разумець элементарнага факта, што не стаіць ён на прафесарскай кафедры і не гаворыць да студэнтаў-філолагаў, якія вымушаны і так зубрыць нават найгоршую нудоту, каб потым здаць экзамен. Радыёслухач у такой камфортнай сітуацыі, што ўсё малацікавае можа пускаць проста міма вушэй. Трэба быць сапраўды заядлым чытакам, каб вытрываць перад радыёпрыёмнікам на працягу 15 хвілін манатонны гутаркі, без ніякіх перапынкаў, без элементаў, якія сведчылі б, што ты гэтую публіку паважаеш і гаворыш іменна да яе, а не дзеля таго, каб захапляцца сваім красамоўствам. Больш для папулярызацыі прыгожага пісьменства зрабіў бы Чыквін, каб чытаў у мікрафон свае вершы, а не адганяў ад рыдыёпрыёмнікаў слухачоў сваім прафесарскім ментарствам.

**У адной са сваіх ранейшых гутарак Ян Чыквін папракаў „Ніву", што тая дапускаецца дэвальвацыі слова, друкуючы абы-якіх аўтараў. А ці не дэвальвуе слова надзвычай дбайлівы да яго майстра, які сам выступае побач рознай масці дрындушак і мовы, якой, мякка кажучы, далёка да нормаў літаратурнай.**

**Мікола Ваўранюк**

 

БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 426*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*

З нагоды 55-ай гадавіны з дня нараджэння Яна Чыквіна, 28 мая ў беластоцкім Філіяле Варшаўскага універсітэта адбылася літаратурная сустрэча, прысвечаная творчасці паэта. З матэрыялаў гэтае імпрэзы публікуем у скарочаным выглядзе выступленне Тэрэсы Занеўскай, даследніцы нашага літаратурнага руху.

Матэрыялы ў поўным выглядзе будуць надрукаваны асобным выданнем у рамках эдытарскай дзейнасці універсітэта.

*Тэрэса Занеўская*

# Катэгорыя прыгажосці ў лірыцы Яна Чыквіна

Свет, які прадстаўлены ў паэзіі Яна Чыквіна, амаль выключна пабудаваны з прадметаў і з'яваў прынятых паўсюдна як прыгожыя. Іх мастацкі лад заўсёды застаецца эстэтычна *высокі*. Калі лірыку Я. Чыквіна змясціць у кантэксце эстэтычных і літаратурных досведаў цягам двух апошніх стагоддзяў, дык — ідэалістычнай пераконанасці сімвалістаў, якія імкнуліся выказаць у паэзіі тое, што невыказнае, і ўпэўненых у тым, што *найпрыгожае тое, што не існуе*, — проціставіць ён гэтаму прыгажосць рэальную, канкрэтную, адчувальна даступную. Гэта якраз сама і прыгажосць свету, якую магчыма ўгледзець, пачуць, дакрануцца да яе. Попахі агародаў, водар касавіцы, ад *грэчкі пахі мядовыя*, позван галасоў птушыных. У параўнанні з эстэтычнымі канонамі мадэрністаў, а таксама мастацкага авангарда, ягоная паэзія ўяўляе сабою повязь з *даўняй прыгажосцю* і вяртанне да яе. Гэта прыгажосць прыроды, якая ад антычных часоў, — асабліва ад піфагарэйцаў як стваральнікаў паняцця гармоніі, а затым і прыгажосці сусвету, — лічылася ўсімі нормаю ды ўзорам тае прыгажосці.

Прырода ў мастацтве аб'яўляецца праз канвенцыю — праз пасрэдніцтва культуры. Чыквін, ад самюткіх сваіх паэтычных пачаткаў, мае глыбокія карані ў культуры. Азнаёмлены ён з важнейшымі доведамі чалавечае думкі і еўрапейскае літаратуры XIX і XX стагоддзяў: *У свой час уражліва чытаў я — не столькі як першых мне паэтаў, але наогул, — Арагона, Бадлера, Апалінэра, Рыльке, Лорку, Дона, Уітмэна, Ясеніна, Пастэрнака, Лесьмяна, Бялашэўскага, Граховяка, — надта розных, вельмі непадобных творцаў. І яшчэ шмат іншых паэтаў, з розных эпох і бакоў свету.* Чыквін, застаючыся пад уплывам багатых культуровых досведаў і шматнакіраванасці сучаснай чалавечай думкі, перадае ўсё тое ў лірыцы з дапамогай укаранелых у культуры знакаў ды сімвалаў. Чалавека змясціў паэт у знакамі патрактаванай прасторы вялікае натуры, у перспектыве: зямля — неба. Так канструяваная прастора выяўляе адначасна эстэтычныя і філасофскія рысы. У філасофскай прасторы праблему антыноміі натуры і культуры найвыразна паставіў Фрыдрых Ніцшэ, пасля Фрэйд. Адбылося тое ў апазіцыі да хрысціянскай культуры і яе этыкі. Водгулле тае ж антыноміі знаходзім, таксама, у паэзіі Яна Чыквіна:

*Чаму пакінуў нас, жывых, жывейшы Параклет?*
*Нашто, нашто ўзірацца нам у вечныя агні,*
*Калі пайшоў ад нас Стваральнік чыстай дабрыні?*

Чалавек выразна апынуўся ў апазіцыі да хрысціянскага космасу, у якім вечнасцю і бясконцасцю Бог, а зладжанасць натуры ўяўляецца нечым закончаным назаўжды. У філасофскай уладжанасці паэта вышэйшай і вярхоўнай каштоўнасцю ёсць жыццё ў поўным яднанні з натураю, з прыродаю. Перажываючы прыроднае, уваходзячы ў гармонію з натураю, чалавек самаўпарадкоўваецца, чаго не гарантуе яму культура. Паслабляючы чалавечыя інстынкты, культура падрэзвае затым карані яго жыцця. Радасць ды пачуццё поўні дае чалавеку ягонае менавіта яднанне з натураю, якое адбываецца праз любоў або захапленне, праз апазнаванне ім гармоніі, іначай кажучы, прыгажосці.

Антыномія натуры і культуры ў паэзіі Яна Чыквіна выяўляецца ў антыноміі самога прыроднага ладу, у супрацьстаянні паміж жыццём і смерцю. У адвечнай антыноміі жыцця і смерці паэт прызнае пяршынства жыццю. Безупынна спрабоўвае ён абараняць чалавека, знаходзіць яму паратунак. Гэтым паратункам уяўляецца зямля, найпэўная з упэўненых грунтоўнасць, вяртанне да першабытных пераканнняў, у якіх наглядаецца адзінасць чалавека і натуры, і ў якіх адзіны лад рэчаў — гэта чарговасць нараджэння і смерці. Найперш жыцця. У лірыцы Чыквіна затым дзве супрацьстаўныя пазіцыі: сыноўнія пачуцці да зямлі, пераконанасць у адзінасці і выключнасці зямнога свету, і адначасна пераконанасць у тым, што мала гэтага. У такім двухполюсным настроі адбываецца ўнутры паэта несупынны душэўны дыялог. Шукае ён зямнога раю, тужыць за нечым сталым, імкнецца выратаваць сябе. Паэт давярае жыццю, у прыгажосці кахання знаходзіць нешта суладнае яму, яднаючае яго са светам. Цялеснае спазнанне кахання не запэўнівае, аднак, векавечнай шчаслівасці. Захапленне целам каханае аціхае і герой вершаў Чыквіна пачынае зноўку адчуваць у сабе звычайны смутак і самоту. Сум праміналня, сум адзіноты, боль існавання, усё ўпісваецца ва ўсе справы паэтычнага свету аўтара *Святое студні*. Каханне ахоўвае ад гэткіх спазнанняў толькі на некаторы час. Любоў у героя Чыквінавых вершаў — гэта любоў-эрас. Іншыя тыпы кахання, у іх ліку так вядомая ў еўрапейскай культуры любоў-caritas, не знаходзіць шырэйшага адбітку ў ягонай паэзіі. Гэта дзякуючы жанчыне і ў згодзе з уласнымі інстынктамі герой яго твораў перажывае гармонію з цэлым светам, поўніцца сусветнай прыгажосцю. Акаляючы свет, зазвычай надта складаны і жахлівы, набывае пад уздзеяннем кахання жаданае колернасці ды бляску, робіцца сэнсавым. *У еўрапейскім мастацтве ад часоў Рэнесансу жанчына ўяўляе сабою жывое ўвасабленне прыгажосці*, — кажа паэт. — *Само паняцце прыгажосці — гэта ж фундаментальная эстэтычная катэгорыя. Гэта таму ніводнае мастацтва не можа пакінуць па-за сваёй увагай асобу жанчыны.*

*Прыгоства прыкмячаем ва ўсёй, акаляючай нас, рэальнасці — у раслінах, звярах, краявідзе. Аднак жа халоднае яно, гэтае прыгоства, і маем мы абыякавыя адносіны да яго. Іначай з прыгажосцю жанчыны, узмоцненай і ўзвышанай прыгажосцю яе душы, што выклікае ў нас саміх тысячныя эмоцыі, думкі і перажыванні, сярод якіх самым вярхоўным і дастойным пачуццём ёсць любоў, каханне. Каханне нараджае цуды. Каханне як арыенцір і падстава жыцця. Каханне, якое ўяўляе нам сабою радыяльную моц, гэтак жа няясную, як і творчы імпэт.*

*Малітва*
*Круглабёдрая мадонна,*
*Паўнагрудая славянка,*
*У вачах тваіх блакітных*
*Цэлы свет мой патанае.*

*Акрылі мяне надзеяй,*
*Апусці ў агонь мучэння,*
*Прычасці знямоглай стомай*
*На дарожных скрыжаваннях.*

*Па-за ласкаю тваёю*
*Нават сонца не заззяе.*
*Ты ствараеш свет і ночы*
*Нараджэння, пахавання.*

*Уся ты ў яснасці вялікай,*
*Як ікона Багамаці.*
*Храства, дабра і праўды*
*Дай мне, грэшніку, пазнаці.*

Прыкмячаючы любоў паэт пакланяецца ідэалу. У яго няма апазіцыі: этыка—эстэтыка. Цікавіць паэта жанчына адначасна прыгожая і добрая, фізічнае прыгоства і маральнае прыгоства, прыгоства душы, прыгоства характару. Герой захапляецца не толькі прыгажосцю цела, але гэтак жа характэрнай душэўнай прыгажосцю, далікатным разуменнем свету. Гэтая ідэнтыфікацыя прыгажосці з дабром, узаемапераплятанне іх у крытэрыях адначасна эстэтычных і крытычных уяўляецца ў лірыцы Яна Чыквіна важным фактарам, які абгрунтоўвае выключную вагу самое прыгажосці сярод іншых каштоўнасцяў у чалавеку. Дабрыню ў жанчыне прыраўноўвае паэт са святым агеньчыкам у лампадзе. Тым самым уводзіць ён жаночую постаць у боскі свет, у якім усё светлае, яснотнае. Фізічнае ззянне пераўтвараецца ў сімвал духоўнага святла, якое чароўным бляскам пранізвае не толькі інстынктыўныя адчуванні, але і душу. Любоў, яднаючы чалавека са светам, абуджае ў чалавеку ўражлівасць, здольнасць кантактаваць з прыгажосцю: ад прыгажосці чалавечага цела да прыгажосці ўсяго акаляючага нас свету. Любоў не ёсць сродак дзеля аналізу ўнутранага жыцця героя, паэт не намагаецца псіхалагічна вывучаць ягоныя пачуцці. Важнае тут іншае, не веды пра любоў або чалавека, а само перажыванне, паглыбленасць у ім. (...) У большасці сваіх твораў Чыквін вельмі проста рэалізуе тую пераконанасць, што гармонія з натураю якраз выратоўвае, яднае з усім светам. Герой яго твораў, звычайна, жыве пасярод прыроды — у вясковай хаце, у пахкіх агародах, у квяцістым полі, на ўскра-іне векавечнае пушчы, не адчуваючы сябе чужым у натуры, перад воблікам нябёсаў спазнаючы прыгажосць аблокаў і акаляючай яго зелені:

*Ішлося з хаты проста ў агарод,*
*У гушчу вырастаючых жаданняў,*
*У сонечны затон, ілюзію свабоды,*
*У постаць трагічную ды самазваную.*

Герой твораў Чыквіна месціцца ў перспектыве натуры, у касмічнай прасторы неба і зямлі. Адначасна заўважаецца ў ім пастаянную прысутнасць свету культуры, з якім кантактуе ён і ўспрымае яго перш за ўсё ў эстэтычных катэгорыях, праз мастацтва. Прыгажосць у культуры — нешта бачнае, судакранальнае, успрымальнае чуццём. Такое разуменне культуры робіць яе вечнай у людскім свеце, а перажыванне яе блізкае метафізічнасці. Так адчуваючы яе — як у любоўі або ў захапленні краявідам — чалавек пераступае экзістэнцыяльную рысу адзіноты.

Універсальнасць паэтычнага свету Яна Чыквіна пабудаваная з шэрагу даступна зразумелых знакаў: зоркі, аблокі, дрэвы, кветкі, птушкі. Чалавек жа назаўсёды застанецца ў даляглядзе вялікага космасу — неба і зямлі, якое знакі ўзяліся са свету *высокае* натуры. Лірычны яго герой усведамляе сам сабе ўсю тую веліч прасторы, у якой адбываецца ягоны лёс, усведамляе прапорцыі чалавечых справаў у свеце вялікай натуры. (...)

Зоркі, аблокі, неба як сведкі чалавечага лёсу ў лірыцы Чыквіна паяўляюцца ў настроі метафізічнага страху, невытлумачальнай пераляканасці, але — разам з тым — і ў настроі захаплення. Будучы тварам у твар з тымі прыкметамі наогул бясконцасці герой Чыквіна спазнае своеасаблівую поўню жыцця, яго веліч; адначасна пограз нейкі і прыгажосць у вышэйшых праявах, аж да самюткага болю ахопліваючы ўсе пачуцці — ад жаху да захаплення.

Супрацьстаянне неба і зямлі пераўтвараецца як быццам у вобразную апазіцыйнасць духоўнасці і цялеснасці. Неба — асабліва начное — у такой апазіцыйнасці нешта кажа значна мацней, чымсьці знакі зямное прыроды; неспакой, злякненасць, экзістэнцыяльны пограз. Ноч неспакоіць сэрца (...)

*Каму за сорак, той пазначаны ўжо цёмным ценем*
*смерці.*
*А ў цені светлай — ўсе й да сарака.*
*Ды кожны чалавек, які жыцця паспрабаваў*
*Гадоў тысячы і тысячы назад ці да жыцця*
*з нябыту*
*Нейк прабʼецца праз якіх яшчэ мо мільён гадоў,*
*Стаяў і стане вось на гэтым хісткім*
*Раздарожжы дня і ночы;*
*Як быў, так будзе забаўкаю страшных моцаў Неба,*
*Спіраляў вечнай гіле і касмічных спазмаў...*

Гэтае неба нічым не нагадвае сабою неапалітанскае або сімвалістычную прыгажосць ідэі. Экспануючы зорнае неба маладапольскія паэты пісалі, што таму яны так чыняць, бо *няма там ні жыцця ані пакутаў, як на зямлі* (Л. Стаф). У Яна Чыквіна — зоркі, неба, аблокі — гэта частка зямнога жыцця, познаткі якога ў перажываннях і пачуццях, і адначасна праява безупыннай эпіфаніі, своеасаблівага выяўлення шматлікасці і дзіўнаты свету. Гэта не *прамаўляючае* і спачуваючае герою неба рамантыкаў, бурлівае неба, грымотнае, віхрароднае, неба як саўдзельнік бунтарных пачынанняў чалавека. Яно маўклівае тут, дзякуючы таму адначасна прыгожае, нагадваючае традыцыі Паскала, указваючае чалавеку ягоную меру — экзістэнцыяльную закончанасць..

Зямлю, як і неба, у сваёй паэзіі пазначае Чыквін з дапамогаю вобразаў-знакаў, а ўпачатку ягонай творчасці нагадвала гэта паэтыку будняў, што ставіла яго блізка досведу скамандрытаў, каб пасля ўсталявацца ў пастаянныя яму каноны паэтычнае прыгажосці, якія выяўляліся ў ім у выглядзе рэквізітаў натуры, з адначасна дадатнай эстэтычнай ацэнкаю іх. (...)

Герой Чыквіна (...) абыходзіць бокам мадэрністычна-экзістэнцыяльную роспач і пакуты. Не крычыць і не лямантуе, як гэта рабілі маладапольскія героі літаратурных твораў. Абыходзіць бокам, таксама, гістарычны досвед нашага веку, досвед ваенных герояў:

*Герояў ужо няма — асталіся мундзіры,*
*На вешалках яны, як на парадзе:*
*Блішчаць у эпалетах на дзень,*
*А ноччу гінуць у шматзначных дзірках.*

*Нядобрым* ведам пра *існаванне смерці*, экзістэнцыянальным пытанням: *Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?* супрацьставіць ён не пакуты жыцця, але перш за ўсё цялесна адчувальны свет. Герой яго твораў, хоць і не пазбаўлены свядомасці смяротнага канца, не пакідае лірычнае ўявы маладосці на фоне квітнеючай прыроды. Тым *нядобрым* ведам супрацьставіць ён *дрэвы жыцця*, у пару квітнення іх ды пладаноснасці.

*Сад*
*Сад мой, садок,*
*Душа найлепшая з душ,*
*Прыбяжы да мяне ў Беласток*
*У белай кашулі груш.*
*Зялёным сваім нутром*
*Надыхаеш даўніх мне сноў.*
*З ветрамузычных кустоў*
*Запалымнее цяпло.*
*З пахучых рук тваіх*
*Ссыплецца звон-цішыня*
*На пажыццёвы мой міг,*
*На другую палову дня.*
*І твой пчаліны фэст,*
*Як гэтага дня благавест...*
*Ды не сарвецца з карэнняў мой брат,*
*Ашчаслівлены сад!*

(...) У лірыцы Яна Чыквіна, у глыбінях ягонага спазнання прыгажосці бачым уяўленне вялікага свету, магутнага, захапляючага, значна перавышаючага чалавека. Гэтая веліч высокаласкавая, нічым не пагражаючая, нягледзячы на натуральную рэакцыю боязі перад абліччам тае ўсемагутнасці. Усё ж бясшкодна чалавеку існуе яна, усемагутнасць, таму і нараджаецца ў ім пачуццё захаплення і паклонства ёй. Само жыццё стаецца, такім чынам, прыгажосцю, а свет цэлы — паэзіяй.

*Падрыхтаваў да друку*
*С. Яновіч*



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЛІЧЫЛКА

Раз,
Два,
Тры,
Чатыры,
Пяць!
Выйшаў зайка пагуляць!
Чуе зайка: нехта кліча.
Бачыць зайка: паляўнічы.
Пух-пах, ой-ёй-ёй!
Уцякай жа, зайка мой!..

# Дзеці на сцэне ў Беластоку



На Свята беларускай культуры з'явілася многа дзяцей. Адны сядзелі на лаўках, побач бацькоў, і пляскалі ў далоні, іншыя выступалі на сцэне.

Нараўчанскія „Душкі з пушкі" *(на верхнім здымку)* выступілі першымі. Дзяўчаткі паказаліся ў новых уборах. Чырвона-зялёна-жоўта-белыя сукенкі атрымалі з Менска.

У амфітэатры выступалі і іншыя дзіцячыя групы — дзяўчаты з Гарадка, бельская „Журавінка", песенны гурт „Пронар" з Нарвы. Усе дзеці спявалі свае песні з апошняга агляду.

„Зорцы" было вельмі прыемна сустрэцца пасля канцэрту са сваімі сябрамі. Тут варта згадаць, што амаль усе дзеці з бельскай „Журавінкі" *(на ніжнім здымку)* з'яўляюцца нашымі чытачамі. Таму і я трымала старану сваіх знаёмых і моцна ім апладзіравала ды крычала: „Брава!"

**Г. К.**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



# Чэрвеньскае развітанне

У чэрвені — канец школы. Для адных гэта радасная пара, бо спыняецца на два месяцы школьны абавязак, можна ўрэшце даволі выседзецца над рэчкай, наездзіцца на матацыкле, паганяцца за дзяўчатамі на танцах. Але, не для васьмікласнікаў. Ім пара гэтая абазначае, можна сказаць, падвойны абавязак ды такую ж псіхічную нагрузку. У чэрвені — развітанне з настаўнікамі і кіраўніцтвам школы, да якога праз некалькі гадоў прыжывалася, а адначасна і выбар новай школы, падрыхтоўка да экзаменаў, нервы, няпэўнасць: як будзе на новым месцы.

Большасць выпускнікаў Пачатковай школы ў Кленіках у працяг сваёй адукацыі выбрала поўныя сярэднія школы. Маюцца тут на ўвазе не толькі агульнаадукацыйныя ліцэі, але таксама, а можа і перад усім, прафесійныя ліцэі і тэхнікумы.

Развітанне вучняў з настаўнікамі, якое адбылося 16 чэрвеня ў Кленіках, мела неафіцыйна-сямейны характар. Абышлося без працяглых прамоў — дакладна па некалькі слоў сказалі Эва Граматовіч ад васьмікласнікаў, дырэктар школы Ян Лабузінскі і Марыя Купрыяновіч ад бацькоў і бацькоўскага камітэта. А затым — усе супольна паабедалі. Афіцыйнае развітанне з уручэннем пасведчанняў заканчэння школы — у сераду 21 чэрвеня.

Першымі ад стала вырваліся вучні — на гук электроннай апаратуры аркестра, які меў падыгрываць да танца. Што ж, вучні гулялі напэўна доўга і зацята. Кленіцкія вучні выдатна выпадаюць ва ўсякіх спартыўных спаборніцтвах. Гэта адна галіна, у якой школа вылучаецца на фоне іншых асветных установаў у сваім наваколлі і ваяводстве, але не адзіная. Другім прадметам з'яўляецца... матэматыка. Шматгадовым яе настаўнікам у Кленіках — **Надзея Карчэўская**. Ейныя выхаванцы, заўважу тут, якраз і развіталіся са сваёй „падставоўкай". Паколькі і аўтар гэтага артыкула, так сказаць, выйшаў з-пад рукі гэтай настаўніцы, дык дазваляю сабе на асабістую рэфлексію ў гэтым месцы. У настаўнікаў матэматыкі наглядаецца адна супольная рыса характару — гэта пэўная строгасць, якая абумоўлена строгасцю самой дысцыпліны, якую той жа настаўнік выкладае. Строгасць гэтая, аднак, раней ці пазней абяртаецца ў карысць навучэнца. Настаўнік матэматыкі, як прынцып, цэніць сваіх вучняў, прычым, наймацней цэніць якраз слабейшых, не допускаючы прорваў у іхніх ведах.

— У выніку, — сказала Н. Карчэўская, — часта здараецца, што сустракаю сваіх навучэнцаў, якія памахаюць мне перад носам цэнзуркамі з сярэдніх школ і скажуць: *ну і што, пані прафесар, чацвёрка-пяцёрка, а ў вас — ледзьве троечка!* Ці ж не прыемна, калі былыя вучні так выдатна даюць сабе рады ў сярэдніх школах у горадзе? Або, калі куратар асветы, раздаючы ўзнагароды за вынікі ў матэматычнай алімпіядзе, запыняецца і ўсхваляе *дасягненні такой маленькай вясковай школкі ў Кленіках.* Аднаго разу мне вырвалася і я ўсіх, у тым ліку і куратара, усведаміла: *Proszę państwa, nasza szkoła nie jest wcale taka mała — ona jest piętrowa.*

Беларуская мова ў Кленіках утрымліваецца на тым жа ўзроўні, што і дзесятак гадоў таму. Вывучаюць яе ўсе — на практыцы абазначае гэта памяркоўны абавязак, бо на строгасць, як у выпадку матэматыкі, дазволіць сабе нельга, заўважыла настаўніца **Вера Фларчук**. Больш націск трэба ставіць на зацікаўленне вучняў і прыцягальнасць самога ўрока.

Дзеля справядлівасці трэба яшчэ адзначыць, што стол на развітальны абед вучняў з настаўнікамі быў пышна нарыхтаваны. Вялікая заслуга ў гэтым не толькі бацькоў, але і саміх вучняў, якія зарабілі на гэта пасадкай лесу. Раней кленіцкія вучні зараблялі на сябе і сваю школу яшчэ капаннем бульбы ў навакольных сельскіх кааператывах, але тыя перасталі дзейнічаць, а пасадка лесу — засталася па сённяшні дзень.

Кленіцкім выпускнікам — поспеху на ўступных экзаменах і шчаслівай дарогі ў гарадскіх школах!

**Аляксандр Максімюк**

# Мая настаўніца

Дарагая „Зорка"! Беларускай мовы навучае мяне прыгожая настаўніца. Яе завуць Анна Шыманская. Я вельмі люблю яе, таму што ўрокі, якія яна вядзе, вельмі цікавыя. Я склала пра яе такі вось верш.

### Настаўніца

Беларускай мовы
вучыць мяне прыгожая
настаўніца
Шыманская Анна,
так называюць яе.
Прыходзіць у школу яна
з рання,
вучыць дзяцей чытаць і пісаць,
вучыць таксама спяваць.
Яна сшыткі правярае
і ацэнкі нам стаўляе.
Наша настаўніца любіць дзяцей
і я за гэта люблю яе.

**Бася Ляўчук, Орля**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанні, Бася! Твая настаўніца сапраўды любіць дзяцей, калі так многа вучняў з вашай школы не забываюць пра яе. Цешыць і тое, што ты не забываеш пра „Зорку".

**З-ка**

## Вершы Віктара Шведа

### Валерка з'еў дзве талеркі

Пытае мама: — Мой сыночак,
Ці з'еў ты смачненькі супочак?
Адказ пачула ад Валеркі:
— З'еў я, матуля, дзве талеркі.
Насыціўся я ўжо без меры
І пратрываю да вячэры.
Смяецца брат Валеркі, Жэня:
— У нас на дзве талеркі меней.

### Музыкі ўрок

Мама пытаецца: — Сынок,
Як музыкі прайшоў урок?
— Мая матуля, дасканала!
Я цешуся, што запытала.
— А на якой жа ты падставе
Упэўнены ў тым, мне цікава?
— Вось у настаўніцы я, мама,
Убачыў вочы са слязамі.

### Бачыць у цемры

Сваім калегам растлумачыў
Малы хлапчына, Бора:
— Мая сястрыца ў цемры
бачыць,
Упэўніўся я ўчора.
Святло пагасла нечакана,
Сястра, замкнуўшы дзверы,
— Ты не паголены, каханы, —
Сказала кавалеру.

# Кленікі наведалі „Зорку”

Нядаўна „Зорку” наведалі дзеці з кленіцкай школы. Разам з імі была настаўніца беларускай мовы Вера Фларчук. Пасля сустрэчы з рэдактарамі „Нівы”дзеці збіраліся ў тэатр. Нам падарылі яны свае малюнкі і запрасілі наведаць іхнюю школу.



Усе малюнкі: Агнешкі Тапалеўскай, Касі Анішчук, Камілы Лабузінскай, Ёлі Свентахоўскай будуць друкавацца ў „Зорцы”. Асаблівую ўвагу звяртаюць іконы Адама Сцепанюка з Гукавіч, вучня VIII класа. Яны захапілі ўсіх працаўнікоў „Нівы”. І таму малюнкі-іконы аздабляюць нашу рэдакцыю, а адну з іх рэпрадукуем на нашай старонцы. Хацелася б, каб Адам і далей працягваў займацца іканапісам і свае працы дасылаў у рэдакцыю „Зоркі”. Аўтараў малюнкаў інфармую, што ўсе яны будуць удзельнікамі штомесячных конкурсаў нашай дзіцячай старонкі.

**Г.К.**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

**Эвы Паплаўскай з Орлі**

Прыходзіць жанчына да лекара з цвіком у вуху:
— Што з вамі? — пытае лекар.
— Слухаю рок-метал.

***

Па вуліцы вельмі хутка бяжыць адно сужонства.
— Каго вы гоніце? Можа вам патрэбная дапамога? — пытае прахожы.
— Не, не! Дзякуем! Мы якраз вяртаемся з тэатра, а хто апошні дабяжыць, той будзе мыць посуд.

*Дарагая Зорка! — Я вучаніца VI класа Пачатковай школы ў Орлі. Я вельмі люблю ўрокі беларускай мовы і нашу настаўніцу Анну Шыманскую. Я прачытала ў „Зорцы” пра конкурс на анекдот і рашыла, за намовай настаўніцы, прыняць у ім удзел. Мабыць, мае анекдоты спадабаюцца вам.*

**Эва Паплаўская**

**Ад рэдакцыі:** Каханая Эва! Вельмі добра, што ты рашыла прыняць удзел у нашым конкурсе. Цябе, як і ўсіх дзяцей, якія ўдзельнічаюць у нашых конкурсах, чакаюць цікавыя ўзнагароды.

**З-ка**

# Паклоннікі „Брагі”

На здымку — Паўлік Гжэсь, Грышка Цітко і Сэбастыян Духноўскі з Гарадка. Гэтыя хлопцы — паклоннікі рок-гурту „Брага”. Яны бываюць не толькі на кожным канцэрце, але і на рэпетыцыях гэтай групы. Апошнім часам хлопцы прадавалі касетныя запісы і кашулькі сваёй „Брагі”, на канцэрце, зразумела. Хлопцы вучыліся ў пятым класе, наведвалі ўрокі беларускай мовы. Але найбольш цешыць іх тое, што яны ўжо пачынаюць гаварыць на роднай мове. Цяпер хлопцы з „Зоркай” інакш і не вітаюцца як „Добры дзень”. Паўлік і Грышка вельмі хочуць навучыцца сваёй роднай мовы. Так жа гавораць іх старэйшыя сябры з „Брагі”, а таксама Лёнік Тарасэвіч і Томсан. Хлопцы паабяцалі пісаць у „Зорку”. Думаю, што ўсе дзеці, а асабліва дзяўчаты, хацелі б пазнаёміцца з гэтымі незвычайнымі хлопцамі.

**Тэкст і фота Г.К.**




# Вучнёўская творчасць

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Крывавая і страшная вайна,
навошта нам яна?
Навошта мардаваць людзей
не маючых уцякаць дзе?
Навошта руйнаваць увесь свет?
Хай па вайне не астанецца след.
Мы хочам міру! —
Мір хоча нас.
Хай будзе мір на доўгі час!

## МАЯ МАЛАЯ ВЁСКА

Дом родны мой
Пабудаваны ў вёсцы Крывой.
Там ёсць вуліца адзіная,
затое прыгожая.
Стаяць маленькія хаткі,
а навокал іх градкі.
Цераз Крывую рэчка Крывая
плыве,
струменьчык вады нясе.
Людзі любяць жыць у вёсцы гэтай
і зімой, і летам.
Лес недалёка вёскі шуміць.
Я вельмі люблю маю малую
айчыну
за тое, што я там жыву.

## МАЕ ЗВЯРЫ-СЯБРЫ

Усе дамашнія звяры
Гэта мае добрыя сябры.
Мой сябра Мунё, коцік,
вельмі любіць дома псоціць.
Джэкі — звер мой другі
любіць вельмі лапаць мухі.
Джэкі — гэта сабачка мой.
Як ён забрэша! Ой, ой, ой!
Я люблю маіх звяроў
і сабак, і катоў.
Звяры любяць мяне таксама
і жывуць са мною дома.

**Юліта Яканюк**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, Юліта! Ці нехта з тваёй вёскі пісаў ужо такія прыгожыя вершы пра Крывую? Твая „Малая айчына”, як ты вельмі добра адзначыла, можа пахваліцца такой жыхаркай як Ты. Пішы і далей у „Зорку”, Юліта.

**З-ка**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Як Пік-Пік выступала

Мама і тата вельмі любяць выступаць. Асабліва тата. Ён вельмі любіць уголас чытаць свае вершы перад публікай на вечарынах, на сустрэчах пад адкрытым небам і, вядома, дома. Дома ён не стаіць перад мікрафонам, які ўзмацняе гук яго голасу, і тата стараецца, каб дома ўсе чулі яго выдатны твор. Тата ходзіць па пакоі і пастуквае нагой абутай у тапак. Пэўна, больш прыемна было б яму стукаць нагой у пантофлі, каб было гучней і больш сур’ёзна, але мама забараніла.

Пракурор з Пракуроршай, што жывуць пад імі, не любяць, калі ім хто грукае ў столь. Веранічка з Максімкам з тае прычыны навучыліся нават рабіць падскокі з лёгкім прызямленнем, як матылькі, амаль бязгучна... Ну, усе павінны слухаць татаў верш, і маюць права рабіць заўвагі. Тата патрабуе заўваг, бо, як кажа:

— Вы — мая першая публіка!

Мышка аднойчы сказала, цярпліва выслухаўшы верш, седзячы на беражку канапы:

— Ну, добры твор, але нейкі доўгі. Я б скараціла яго напалову. Пры апошніх словах я ўжо не памятаю, што было напачатку.

— Ну ты, ведаеш! — узлаваўся тата. — Кароткая твая памяць, Пік-Пік, як і мозг маленькі! Што можа ведаць такая істота пра П-а-э-з-і-ю?! Можаш выказваца пра даўжыню свайго хваста, калі гэтае штосьці можна назваць хвастом!

Тут тата нервова пацягнуў за свой правы вус. Пік-Пік пагладзіла свае вусішчы і ўжо хацела пісνуць пару слоў пра татавы вусікі, але тут у яе вочы з намёкам паглядзела Пепіта і пераступіла з лапы на лапу. Ага! Такая дэмакратыя ў гэтым доме! Голас можаш узяць, але цікава, ці дадуць табе закончыць думку, не гаворачы аб прыняцці да ведама тваіх прапаноў. Во якая палітыка!

Мама вершы піша паціху. Мышка толькі раз ноччу бачыла, выйшаўшы пад’есці, як мама ў кухні нешта хавае ў папку. Папка была досыць пукатая. Пэўна там была цэлая паэма! Паэма намнога даўжэйшая за верш, і, вядома, на паперы займае больш месца. Мама тады яшчэ не пісала прозы. Пік-Пік ведае ад дзядзькі Івана, што прозу не пішуць у стоўбіку, як верш, а па ўсёй старонцы, і проза не рыфмуецца. Мышка ведае таксама, што ўсе размаўляюць прозай. Прозай не гаворыць Максімка, бо ў прозе ёсць сказы, а што за сказы ў малечы: „гу-гу” гэта ж не сказ!

Жывучы ў такой сям’і дзіўна было б не захацець выступіць перад публікай. Але спачатку трэба ж напісаць верш ці песню. І склала Пік-Пік сама вось які верш:

Сонца ярка свеціць
І гуляюць дзеці.
А я выступіць хачу,
З коткай у космас палячу!

Паўтарала мышка столькі разоў, аж магла яго сказаць скорагаворкай. І калі прыйшлі ў госці дзядзькі Міхась, Мар’ян і Уладзік, узлезла на цукарніцу і выступіла:

Сонцаякасеціць
Ігуляюдзеці.
Аявыступіхачу,
Скотакосаспалячупікпік!

Ой, як пляскала ў далоні публіка! А дзядзька Уладзік схапіў свой фотаапарат і хутка зрабіў здымак.

Жыгнула-бліснула фоталямпачка! Аж цёмна стала Пік-Пік у вачах. Кульнулася яна з цукарніцы проста на маміны калені, падкурчыўшы ў жаху лапкі. Адплюшчыла вочкі, калі ў рот упусцілі ёй кроплю халоднай гарбаты.

— Цьфу, чым мяне частуеце за выступленне? — страсянулася ўсім целам Пік-Пік. — Давайце сюды торцік!

**Цётка Міра**

# У патоках сонца і дажджу

*Працяг са стар. 1*

„Грамада" (Генусь Шмет успамагаў таксама *гурт ГП БГКТ* „Рэаль"). З „Васілёчкамі", „Журавінкай" і „Дзявочымі ноткамі" ды „Маланкай" выступіў незаменны Сяргей Лукашук. Раскаліў да беласці прамоклых слухачоў „Ас", раскалыхала „Грамада". Захапілі маладзенькія беластоцкія „Каласкі", хор гарадскога адзела БГКТ, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, Гарадок, гайнаўскі хор. Гарачымі воплескамі сустракалі слухачы знаёмыя „Арэшкі" з Арэшкава, „Хлопцаў-рыбалоўцаў" з уласнымі песнямі Мікалая Ігнацюка і Аляксандра Раманюка і цётачак з Паўлаў, „Каліну" з Дашоў, „Чарамшыну" з Чаромхі, бельскую „Маланку", „Вульчанку" з Вулькі-Тарахоўскай у новых касцюмах. Распазналі адразу, нягледзячы на новыя касцюмы, „Тыневічанкі"... Усіх з амаль трыццаці выканаўцаў віталі радасна. Шмат хто падпяваў песні разам з калектывамі — вядомыя яны ўжо з магнітафонных касет. Народ чытае менш, бо літар „рускіх" нявучаны ў школе, а песня прамовіць да кожнага. Песня яднае. І яднае Беларускі музей, да пабудовы якога кожны ў гэты чэрвеньскі дзень даклаў хоць злот у скарбонку.

**Міра Лукша**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Зацікаўленне кніжкамі было памяркоўнае.*



*Прамоклых слухачоў раскалыхала віцебская "Грамада".*



*Гарачымі воплескамі сустрэла публіка гурт з Чаромхі.*

*Аляксандр Вярбіцкі*

# Духмяная мудрасць

Многія гады жыхары нашай краіны гарэлі эмоцыямі, звязанымі з Велагонкай міру. Кожны дзень пасля поўдня па радыё і па тэлебачанню рваліся да мэты або пелетон або нейкі іншы Круляк ці Шуркоўскі. Часта гонкі гэтыя выйгрывалі савецкія спартсмены. Аднойчы да аднаго з іх, Ава Пікуса, падбег рэпарцёр і пераможца прахрыпеў у падсунуты яму мікрафон „Победил, победил, победил!" Было гэта цэлае інтэрв'ю.

Прапала цяпер Велагонка міру з радыё і тэлебачання; не знаю нават ці не прапала яна і з дарог. У тэлевізары месца велагонак занялі квізы і рэкламы нейкіх олуэйсаў ці блендамедаў. Аднак дух спаборніцтва ў народзе не гіне.

Сёлета навесну, калі на дрэвах паказалася лістоўе, усё ж такі рушылі непаседлівыя змагары, каб дабівацца нейкай перамогі. Адбываюцца розныя спаборніцтвы: то футбалісты бегаюць за мячом, то дзеўкі за хлопцамі, то палітыкі за прэзідэнтурай і г.д. не гаворачы ўжо пра барацьбу шэрага чалавека за існаванне. У Беластоку выйшлі вось на старт і беларускатэматычныя гоншчыкі: вядомы і праслаўлены чэмпіён Казімеж Семяняка і таксама вядомы, але быццам бы крыху менш, Мікола Гайдук. Месцам гонак абралі яны загоны Сакрата Яновіча, а стартавым сігналам стала для іх ягонае інтэрв'ю „Kolonia czy przyczółek komunizmu" ў „Кур'еры паранным". Інтэрв'ю гэтае засяроджвалася вакол вынікаў лукашэнкаўскага рэферэндуму. Семяняка, як прыстоіць чэмпіёну, даў Гайдуку тыдзень фор і той рушыў першы. Спаборніцтва гэтае можа новае, а можа і старое, а заключаецца ў тым, хто глыбей замест пяра ўваліць зубы ў чарніла.

Ужо на старце свайго артыкула „Nie pluć w twarz Białorusi" („Кур'ер паранны" ад 2-4 чэрвеня) Гайдук зрабіў сур'ёзную заяўку на перамогу: „W swej emocjonalnej wypowiedzi (...) p. Sokrat Janowicz nadzwyczaj swobodnie popuścił wodze swej odrażającej wręcz pogardzie do swego narodu, a wszak mieni się on „pisarzem białoruskim!"... Wierutnym fałszem jest jego stwierdzenie, że jakoby „na Białorusi nie było dążenia do niepodległości". To potwarz!" Так піша Гайдук, прыводзячы далей імёны князёў-змагароў ад Усяслава Чарадзея да Багдана Хмяльніцкага (!). Пэўна змагаліся яны пад сцягам і гербам прыдуманымі Лукашэнкам, якога рэформы Гайдуку яўна даспадобы. Хваліць ён уведзенае двухмоўе, піша што ўжо мала хто паслугоўваецца беларускай мовай і ставіць задачы: „W tej dziedzinie, tj. przywróceniu językowi białoruskiemu należnych mu praw, leży przed inteligencją białoruską ogrom długoletniej pracy u podstaw, pracy organicznej". Прыкладам такіх двухмоўных дзяржаў, дзе інтэлігенцыя правяла працу „u podstaw" Гайдук ставіць Аўстрыю, ЗША, Паўднёвую Амерыку. Так — аўстрыйская мова раўнапраўная там з нямецкай, зшайская з англійскай, а паўднёваамерыканская з іспанскай. Мала таго: „nikt z tego powodu nie kwestionuje suwerenności tych państw". Таксамюсенька як і Беларусі. Апрача аднаго Сакрата Яновіча.

„Rozmijają się z prawdą insynuacje S. Janowicza iż „Białorusinów na Białorusi jest właściwie mało i szacuje ich między Krynek na ... 20%". І мае Гайдук, „również pisarz białoruski", рацыю. Бо *беларусаў*, свядомых свае нацыянальнае тоеснасці, то будзе мо і з 20%, але *белорусов* — напэўна 80% калі і не больш. Хто ж гэта такі *белорус*? Каб адказаць на гэтае пытанне трэба нырнуць у глыбіню гадоў, да яго, *белоруса*, каранёў. Як многім, асабліва старажылам, вядома, у СССР у 1971 годзе адбыўся XXIV з'езд „родной коммунистической партии", на якім аб'яўлена завяршэнне будаўніцтва ў гэтай краіне развітага сацыялістычнага грамадства і пераход да будаўніцтва ідэальнага грамадскага строю, у якім „ад кожнага паводле магчымасцяў, кожнаму паводле патрэбаў". Вызначана таксама „образцовый коммунистический город" — стала ім Масква. „Ад кожнага паводле магчымасцяў" рэалізавалася на месцах, затое „кожнаму паводле патрэбаў" пакуль што толькі ў „образцовой" Маскве. У сферы матэрыяльнага размеркавання абазначала гэта тое, што прадукты звозіліся з усёй краіны ў Маскву і там можна было іх нават купіць. І з цэлага Саюза ездзілася за пакупкамі ў Маскву. З Беларусі ездзілі туды *белорусы*. І калі, як піша Гайдук, „niepodległość dla Białorusi wcale a wcale nie „spadła" z „nieba", ale została wywalczona i wypracowana jej własną krwawicą", не стала куды *белорусам* ездзіць за прадуктамі. І затужылі яны па „единому нерушимому", па „образцовому коммунистическому", па „красно-зелёному", па „общепонятному", не звяртаючы асаблівай увагі ні на Усяслава, ні на Хмяльніцкага ці на „wywalczoną i wypracowaną jej własną krwawicą" незалежнасць. І не ведаюць гэтыя *белорусы*, што „образцовый коммунистический" надалей „образцовый", толькі ўжо не „коммунистический". Усё-такі імкненне да інтэграцыі трэба пахваліць: „jeśli Białoruś próbuje szukać ratunku z krachu gospodarczego w integracji z Rosją — od razu wrzask i przekleństwa... Czy (...) zjawienie się czołgów rosyjskich na prawym brzegu Bugu to hańba Białorusi?!..." Сучасная гаспадарчая інтэграцыя, паводле Гайдука, гэта інтэграцыя танкамі. Пры феадалізме гаспадарчай інтэграцыяй займаліся каралеўскія ці княжацкія карнікі.

І малы экскурс у феадалізм: „S. Janowicz mniema, iż skoro polski Prezydent wziął go na pazia do swej świty podczas odwiedzin Białorusi, (...) to wolno Sokratowi Krynockiemu ubliżać Białorusinom". Калі пра пажаў мова, слоў пару з жыцця вышэйшых пажых сфер. Загляньма ў 21 н-р „Нівы". Яновіч піша: „Яўген Чыквін (...) ужо прэзентуецца публічна як *беларускі* патрыёт (*правільна моўна* выступленні *піша яму* Мікола Гайдук)".

У 24-м н-ры „Нівы" Мікола Гайдук адказвае: „не магу сцярпець такога ілгунства крыноцкага ілжэпрарока. (...) Калі і было нейкае дачыненне да яго (Чыквіна — А. В.) выступленняў, дык толькі выключна да *беларускамоўных* (...). Раней напісаныя ім выступленні на польскай мове *я перакладаў на беларускую*, а цяпер толькі часам папраўляю іх беларускую мову і то не ў многім".

Розніца паміж ілгунствам і Гайдуком аграмадная — без водкі не ахопіш.

Пасля гэтага выдатна прадуманага і праведзенага выступлення М. Гайдука на старт выйшаў Казімеж Семяняка. Слаўны чэмпіён ужо на старце здаў свае пазіцыі. Загаловак яшчэ баявіты „Sokrat Kryński bizantyjski" („Кур'ер падляшскі" ад 9-11 чэрвеня), але далей ужо толькі лічаныя выстралы з капюшонаў.

„Jeden z najbardziej znanych i kontrowersyjnych pisarzy polskich, piszących w języku białoruskim, Sokrat Janowicz, ostatnio znowu trafił na prasowe języki. Pisarz ów ma to do siebie, że bez rozgłosu, graniczącego ze skandalem, nie może długo żyć. Nie oceniam — Janowicz ma rację czy też nie ma, bo to nie moje sprawy i nie moja nacja — jednak poprzez fakt dyskusji, polemik, nawet pyskówek, staje się on osobą publiczną. A wówczas nawet podwórkowy burek ma prawo zaszczekać".

Безагаворачная капітуляцыя слаўнага Казіка ўжо ва ўступе; далей ужо не зубастая паэзія ў прозе, толькі бледныя дрындушкі.

І добра яму так, чужынцу малявананаму!

Знай нашых!
Наш хлопец перамог.
І як слаўна: як мудрае птушаня што і міленька заціўкае, і крыльцамі ўзмахне, і роднае гняздзечка адухмяніць.
Победил, победил, победил!
Мікола Гайдук!
По-русски — молодец!

# „Зялёныя святкі" ў Такарах

**На Бельшчыне і Гайнаўшчыне ў апошні дзень Тройцы хто жывы падаецца на Крыначку. У народзе нават сам дзень так называецца. У Такарах, што ў Мельніцкай гміне, тады таксама прыхадскае свята, якое сярод тамтэйшых жыхароў вядомае як „Зялёныя святкі".**

* * *

Вёска Такары адным канцом утыкаецца ў дзяржаўную мяжу, якую тут пасля вайны перасоўвалі тройчы. У канцы, большая частка сяла апынулася ў Беларусі. Там будынкі разабралі, а жыхарам дазволілі пасяліцца адно ў бяспечнай адлегласці ад граніцы. На беларускім баку засталася і прыхадская царква. Каталікі пераехалі на польскі бок. Цяпер у Такарах (на гэтым баку) толькі пятнаццаць праваслаўных сем'яў. Сама вёска цягнецца на паўтара кіламетра. У найбольш відным месцы драўляны касцёл у гуральскім стылі.

Спачатку, следуючы за святочна апранутымі вернікамі, пад упрыгожаны зялёнымі бярозкамі касцёл трапілі і мы. Выявіўшы сваю памылку — з праваслаўным прыхадскім святам супала каталіцкае, Антонія — давай распытваць пра царкву. Аказалася, што знайсці яе не проста. Едучы па ўказаннях, у напрамку Катэркі, на шашы не заўважылі мы ніводнага верніка. На шчасце, трапіліся два хлопцы на роварах, з торбачкамі святочных цукерак. Яны і накіравалі нас на палявую дарогу ў лес. З кожнай балоцістай выбоінай, з кожным коранем упоперак дарогі, нашы сумненні наконт шляху раслі. Раптам з кустоў выхінуў — пад самыя колы — дзядзька ў касцюме. За чарговым паваротам, між дрэвамі, паявіліся машыны, трактары, фурманкі. Крышку далей, пасярод маляўнічай паляны віднела сіняя драўляная царква.

Храм пабудаваны ў 1912 годзе, у гонар Прасвятой Дзевы Марыі. У гэтым месцы раней аб'явілася Божая Маці.

*— То чуда, што гэта царква спаслася пасля вайны,* — дзівуецца дзядзька з Радзілаўкі, *— тут такі страшны час быў. Усё ішло з дымам.*

З той пары, калі такароўскі прыход падзяліла дзяржаўная мяжа, гэтая лясная царква выконвае ролю прыхадской. Месца тут мокрае, дрыгвяністае. Каля царквы крыніца, вада з якой мае цудатворныя якасці. У падзяцы за вылячэнне стаіць тут шмат драўляных крыжоў. Звяртае ўвагу стараннае ўпарадкаванне царкоўнага пляца. Сцежкі высыпаныя жоўтым пяском, а вакол самой царквы — новыя тратуары. Настаяцелем у Такарах з'яўляецца айцец Міраслаў Аўксецяюк.

На нашае здзіўленне *празнік* быў мнагалюдны. Традыцыйна прыязджаюць сюды таксама праваслаўныя з суседніх прыходаў і вельмі многа гасцей з Сямяціч. Некалькі гадоў таму жыхарам другой часткі Такароў далі магчымасць наведваць у гэты дзень сваякоў. Здавалася, што і сёння пераход адкрыты, бо ў бок мяжы, па вузкай, але асфальтавай і простай як страла дарозе, рухаўся натоўп шпацыруючых. Польскі пагранічнік ля калючага дроту адкрыта адказваў на пытанні зацікаўленых.



*Хрэсны ход вакол такароўскай царквы.*

*— Калі адчынілі пераход Полаўцы—Пяшчатка,* — казаў ён, *— сюдою ніхто не пускаем. Здараецца толькі, што праз гэтую браму дэпартуем парушальнікаў граніцы.*

*— Daj popatrzeć na ruską stronę,* — зашчабятала да кавалера адна прыгажуня.

*— Nie na ruską, tylko na białoruską,* — усведамляў яе хлопец. *— Ruska to trochę dalej.*

На другім баку ўзаранай паласы мірна працавалі. Брыгада рабочых рамантавала нафтаправод „Дружба".

А каля царквы святочны гул. Правілася багаслужба, а побач, ля калодзежа, таксама тоўпіўся народ. Кожны стараўся папіць святой вады, некаторыя прамывалі твар і вочы, бралі ваду з сабою.

*— Ад усяго памагае,* — тлумачылі нам цёткі.

Служба канчалася хрэсным ходам, або *працэсіяй*, як там кажуць. Напачатку, з іконамі Божай Маці, ішлі дзяўчаты. Многія станавіліся на калені, так, каб ікона перайшла над імі. Паводле веравання, гэта ратуе ад болю галавы і вылечвае жаночыя хваробы.

Калі хрэсны ход запыніўся ля калодзежа і святары пры ім памаліліся, людзі пачалі ламаць галінкі бярозак, якімі калодзеж быў упрыгожаны.

*— Навошта бяруць гэтыя голькі?* — спыталіся мы старэйшага дзядзькі з Клюкавіч.

*— То ўжо традыцыя такая,* — адказаў ён, *— усе бяруць, то і я бяру.*

*— Абавязкова адламіце сабе, калі ў вас ёсць машына,* — горача заахвочвалі гарадскія з выгляду цёткі, з тоўстымі букетамі галінак у руках. *— Яны вас усцерагуць ад дарожнага выпадку. Я на сабе дакладна спрактыкавала. Толькі, калі будзеце пратаць, ці што, не выкідвайце іх, нават калі лісточкі ападуць.*

* * *

У зваротнай дарозе, на адным з крутых лясных паваротаў мы ледзь не ўляцелі пад аўтобус. На шчасце, везлі мы пасвячаныя галінкі ад такароўскай царквы.

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота Міколы Ваўранюка**



*Людзі становяцца на калені перад іконамі Божай Маці.*



*Гολькі з Такароў сцерагуць ад дарожных выпадкаў.*

# Нядзеля беларускіх святых

Сёння для ўсіх нас асаблівы дзень. Ад 1984 года 3-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы абвешчана „Нядзеляй усіх беларускіх святых". Гэта вялікае царкоўнае і нацыянальнае свята, важнейшае ад усіх „вялікіх кастрычнікаў" і іншай бязглуздзіцы. Мы ўспамінаем не семдзесят, а тысячу гадоў нашай слаўнай мінуўшчыны. „Гісторыя народу, — пісаў Ніл Гілевіч, — найбольш ярка ўвасоблена ў духоўных вобліках, справах і творчых плёнах яго лепшых сыноў і дачок... Мы не толькі павінны, але мы абавязаны ведаць сваё мінулае, каб лепш зразумець сваё сёння і лепш убачыць сваё заўтра... каб ясней уявіць як да яго ісці. У цывілізаваным, культурным грамадстве запаветы вялікіх заўсёды значылі і значаць вельмі многа; іх цэняць і шануюць, імі даражаць, на іх абапіраюцца ўсе тыя, хто хоча ісці дарогай Праўды, Дабра і Чалавечнасці".

Кожны народ ганарыцца імёнамі вялікіх патрыётаў, вучоных, мастакоў. Сярод тых, што жылі і працавалі для Беларусі, ёсць і святыя. У свой час яны фармавалі яе духоўны, культурны і палітычны воблік. Для Беларусі яны зрабілі болей чымсьці многія іншыя, якім выставілі помнікі і памясціліў энцыклапедыях. Помнікі ставяць і разбураюць, а шанаванне святых працягваецца стагоддзямі, без прымусу і кан'юнктурнасці. У розныя эпохі народ сам вылучыў і шанаваў тых, жыццё і заслугі якіх цаніў найвышэй. Царква афіцыйна, ідучы за голасам народу, прызнала святымі 14 асоб. У XII стагоддзі жылі і дзейнічалі выдатныя Полацкія іерархі: свяціцелі — Міна (пам. у 1116 г.) і Дзянісій (пам. у 1182 г.) і ў XIII стагоддзі — Сімяон (пам. у 1289 г.). Слаўны горад Тураў меў сваіх святых: свяціцеля Лаўрэнція (пам. у 1194 г.), беларускага „залатавуснага" Кірылу (пам. у 1183 г.) і прападобнага Марціна (пам. у 1150 г.). У Полацку жыла вялікая асветніца і апякунка беларускага народу — прап. Еўфрасіння. Сярод святых ёсць князі: Расціслаў (пам. у 1167 г.), слуцкая князёўна Сафія (пам. у 1612 г.) і альшанская князёўна Юльянія з XVI ст. Апрача іх да сабору беларускіх святых належаць: прападобны Апанас Берасцейскі (пам. у 1679 г.), прап. Елісей Лаўрышэўскі (пам. у 1250 г.), адзіны святы з Беласточчыны — мучанік-младзенец Гаўрыіл Заблудаўскі (пам. у 1690 г.) і прап. Макары Пінскі (пам. у 1688 г.).

Нельга тут падрабязна ахарактарызаваць усіх святых, хаця іхныя жыццяапісанні цікавыя і павучальныя. Варта аднак падкрэсліць спецыфіку беларускай святасці. Іхная шматбаковая дзейнасць парушае стэрэатып пустэльніка ці аскета, занятага самаўглыбленай малітвай і сузіраннем. Беларускія святыя — людзі прагрэсіўных у свой час поглядаў; асветнікі і патрыёты сваёй зямлі. Гэта была актыўная святасць, накіраваная на агульнае, грамадскае дабро. Яны шчодра дзяліліся з народам: хто матэрыяльнымі сродкамі, хто плёнам сваёй працы, а хто сваім духоўным дасведчаннем. Увасаблялі яны лепшыя рысы нацыянальнага характару: бескарысьлівасць, дабрыню і лагоднасць. Сумленным, самазабыўным жыццём яны былі і дагэтуль застаюцца маральным прыкладам для суайчыннікаў і нашчадкаў. Яны сапраўдныя светачы нашай мінуўшчыны, соль зямлі беларускай, ейнае святло і сумленне.

У сённяшні дзень звяртаемся да беларускіх святых з пашанаю і любоўю, з удзячнасцю і прызнаннем. Без іх мы былі б духоўна бяднейшымі. Мы заўдзячваем ім болей, чымсьці сабе ўсведамляем. Без гэтага жа ўсведамлення велічы сваёй мінуўшчыны не можа быць і будучыні.

**а. Канстанцін Бандарук**

Шчырае спачуванне
**СЯРГЕЮ ХАРКЕВІЧУ**
з прычыны
напаткаўшага яго гора –
**смерці БАЦЬКІ**
выказваюць кіраўніцтвы
Грамадскага камітэта
пабудовы Беларускага музея
і Аддзела БГКТ у Гайнаўцы.

# Ці вернуцца да карэнняў?!

**З ВАЛЯНЦІНАЙ СІНЯКОВІЧ, дырэктарам Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку, гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

*— Прачулі мы, што нядаўна Вы былі на канферэнцыі ў Менску...*

— Так, мы там былі з Ядвігай Юхневіч, загадчыкам метадычнага аддзела нашай бібліятэкі. А была гэта навукова-практычная канферэнцыя „Бібліятэчны менеджмент", якая працягвалася 6—7 чэрвеня. У плане было знаёмства з маркетынгам у публічных і навуковых бібліятэках. Канферэнцыя адбывалася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, але паказвалі нам і іншыя бібліятэкі ды музеі.

*— Хто прымаў удзел у гэтай канферэнцыі?*

— Прадстаўнікі ўпраўленняў культуры з Беларусі, кіраўнікі і спецыялісты рэспубліканскіх і абласных бібліятэк, дырэктары ЦБС, навукоўцы Беларускага універсітэта культуры. Апрача таго, былі госці з Масквы, ну і мы, з Беластока.

*— Ці беластоцкая дэлегацыя прыехала на запрашэнне Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі?*

— Не. Запрасіла нас упраўленне культуры Менгарвыканкама. Мы з імі супрацоўнічаем ужо пяць гадоў. Адбываецца абмен бібліятэкарамі Менска і Беластока, у часе якога госці знаёмяцца не толькі з працай бібліятэк у суседняй краіне, але і з яе тэатрамі, музеямі, гістарычнымі помнікамі.

*— Можаце павучыцца адзін у другога?*

— Ну, вядома! У нас госці з Менска апошні раз былі ў дзевяноста чацвёртым годзе. Яны лічаць, што ў нашых бібліятэках адбываецца больш прагрэс — камп'ютэрызацыя, бібліятэчны маркетынг. Хаця і так вядома, што бібліятэкі не заробяць на сваё ўтрыманне, аднак ёсць у нас нейкія пошукі і ў выніку гэтага, хаця невялікія, але ўласныя грошы.

А нам у іх вельмі падабаецца сістэма працы. Там велізарная ўвага адводзіцца дзіцячым бібліятэкам. Перш за ўсё, ёсць спецыяльныя дзіцячыя бібліятэкі, а не толькі бібліятэкі для дарослых. Чаму гэта праблема асабліва зацікавіла нас? Паколькі ў большасці дзіцячых бібліятэк вядзецца праца з дзецьмі ўжо ад узросту трох гадоў. У такую бібліятэку прыходзяць дзеці з бацькамі, і ёсць там асобная праграма для дзяцей і асобная — для дарослых. У той час, калі дзеці заняты кніжкамі ці гульнямі, для іх бацькоў вядуцца гутаркі аб тым, як выхоўваць дзяцей, якія кніжкі ў якім узросце даваць малышам, у якія гульні і калі павінны яны гуляць і г.д.

*— Ці ў нас зусім не вядзецца гэткая дзейнасць?*

— У Беластоку толькі адна Філія нумар 73 на вуліцы Цёплай вядзе заняткі з групай дзяцей прадшкольнага ўзросту, ды і тое ўсяго гады два-тры. У Польшчы наогул рэдка вядзецца гэткая дзейнасць. На Беларусі бібліятэкі маюць шчасце, бо будуюць іх з дзяржаўнага бюджэту. А вось, напрыклад, у Беластоку толькі адна Філія н-р 7 на вуліцы Гаёвай з'яўляецца нашай уласнасцю. Рэшту мы наймаем у кааператывах. А яны там, на Беларусі, маюць уласныя памяшканні, дзе могуць наладжваць пастаянныя сустрэчы з прафесіянальнымі мастакамі, спалучаныя з выстаўкамі і продажам іх прац, праводзяцца таксама сустрэчы з пісьменнікамі.

*— На канферэнцыі ў Менску Вы выступілі з дакладам „Маркетынг у дзейнасці бібліятэк Беластоцкага ваводства".*

— Я хацела паказаць, што зроблена ў галіне пошукаў сродкаў для бібліятэк. Некаторыя гарадскія і гмінна-гарадскія бібліятэкі Беласточчыны вядуць уласныя кнігарні ці аптовыя склады, пазычальні відэакасет, дзе-нідзе робяцца частковыя гуказапісы для студэнтаў, настаўнікаў. Усё гэта дае хоць некаторыя дадатковыя сродкі, так патрэбныя для экзістэнцыі бібліятэк. У часе так званага „круглага стала", дзе ў асноўным гаварылася пра заробкі, арганізацыйныя структуры, неабходнасць новага закона аб бібліятэках, мне давялося сказаць пра тое, як мы — ваяводская бібліятэка — вядзем нагляд над бібліятэкамі ніжэйшага рангу і як дапамагаем ім. Але што тут зробіш пры нашых скромных сродках! Падумаць толькі, у Менску ўжо ёсць амерыканскія каталогі для бізнесменаў! А ў нас жа колькі людзей шукае розныя юрыдычныя, мытныя даведкі і не можа знайсці. Во каб усё гэта было ў адным месцы! Нешта падобнае сабрана ўжо ў Паморскай бібліятэцы ў Шчэціне. Там арганізаваны Аддзел бізнесу. Праўда, някепска дапамаглі пры гэтым немцы. Нават была там арганізавана міжнародная канферэнцыя „Бібліятэкі і бізнес".

*— Вы апынуліся ў Менску якраз пасля вядомага рэферэндуму. Як успрынялі яго вынікі працаўнікі культуры — удзельнікі канферэнцыі?*

— Многія былі вельмі занепакоены тым, што дзеецца ў справе беларускай мовы на Беларусі. У кулуарных размовах людзі сцвярджалі, што бібліятэкі могуць адыграць велізарную ролю ў выхаванні маладога пакалення, маладога беларуса. Але мы адначасова былі вельмі здзіўлены, што некаторыя даклады з Беларусі на такой канферэнцыі чыталіся па-руску...

*—... і ў вас засталося кепскае ўражанне ад Беларусі?*

— О не! У філіі, здаецца, нумар 20 у Менску мы чулі, як дзеці цудоўна гаварылі па-беларуску. А ім было трыпяць гадкоў. Калі нешта ў іх не выходзіла, мамы іх папраўлялі. Дзеткі хадзілі па бібліятэцы і самі выбіралі сабе кніжачкі з нізенькіх паліц. Старэйшых дзяцей папраўлялі бібліятэкаркі. Я думаю, што гэта праца будзе весціся далей. Не ўдасца затрымаць так званага „вяртання да карэнняў".

Вельмі цікавая сустрэча адбылася ў Музеі Янкі Купалы. Дзеці адказвалі надта трапна на пытанні ў часе музейных заняткаў. Вядома, усё па-беларуску. Я нават не ўяўляла сабе ў святле вядомых фактаў, што дзеці будуць гаварыць на такой цудоўнай беларускай мове. А якія глыбокія веды!

Мы з Ядвігай Юхневіч прыцягнулі з Менска аж 135 кніжак, якія атрымалі ў падарунку ад таварыства „Кніга". Усе яны на беларускай мове. Ёсць і дзіцячыя. Пойдуць яны туды, дзе беларускія кніжкі чытаюць: у Дубічы-Царкоўныя, Дубіны, Чыжы, Нарву, Нараўку, Кляшчэлі.

*— А як наогул чытаюць у нас беларускія кніжкі? Вы ж, здаецца, аналізуеце гэтыя справы?*

— Так, мы робім сістэматычныя доследы, і з жалем мушу сцвердзіць: штораз менш чытачоў у беларускім асяроддзі. Многа залежыць ад бібліятэкараў. Вось у Нарве, напрыклад, дзе Аля Сяткоўская ангажуецца, ездзіць па вёсках, — беларускія кніжкі чытаюць.

Але людзі не ўсё тут могуць зрабіць: у Беластоку сёння няма ніводнай кнігарні з беларускай кніжкай. У бібліятэках няма ніякіх навін. Нібы мае быць славянская кнігарня, дык можа там штосьці беларускае трапіцца, але калі гэта будзе...

*— Дзякуем за размову і спадзяемся, што Вам, ураджэнцы Сямяціч, справы беларускай культуры надалей будуць ляжаць на сэрцы, а дзеткі, якіх Вы чулі ў бібліятэках і музеях, пачнуць па-беларуску гаварыць у крамах і на вуліцы.*



**Гутарыла
і фатаграфавала
Ада Чачуга**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XVI**

Сёння прывяду тыя фрагменты выказванняў Сцяпана Багнюка, якія адносяцца да ролі Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла ў галіне русіфікацыі і паланізацыі беларусаў.

„Мне то здаецца, Баршчэўскі, што найбольшу крыўду то нашаму народу зрабіла Цэрква і Касцёл. Бачыш, яны ад вякоў валаклі наш народ у два бакі — у бок Расеі і ў бок Польшчы. Калісь то ў цэрквах за Расею і за цара і за рускае воінства маліліся, але за Беларусь то ніхто нікolі ні маліўся. А сягодне то ты знаеш, што робіцца? Калісь то ў Юшкавым Грудзе ў школі то ўчылі па-беларуску, але пасля то ўсё пропадом прапало. Ты знаеш, я раз еду праз Юшкаў Груд, а з плебаніі выбеглі дзеці юшкаўскага папа і што ты думаеш? Ані слова па-нашаму, толькі па-польску пшэкают. І таму я, Баршчэўскі, ні вельмі веру ў тое, што ты тут мне гаворыш, што ест папы свядомы беларусы. Я аб такіх ні чуў. От у мяне то быў тут пару лет таму назад такі выпадок. Прыехаў да мяне юшкаўскі поп з матушкаю. То было хібо тады, як Юлік памёр. І ты знаеш, што мне тут матушка заспявала? Яна мне кажэ: „Так Бог велеў, што мой муж свяшчэннік. Он тепер пасрэднік между людзьмі і Богом". А я ёй узяў і адрэзаў: „Ні расказвай мне такіх сказок, што тут Бог штось велеў і што твой мужык пасрэднік. Ён просто цэркоўны ужэнднік і ўсё". А яна мне на гэто: „Ну але нам надо жить". А я ёй сказаў так: „О, цепер то ты разумно говорыш. Гэто праўда, вам трэбо жыці. І мы маем абавёнзок вам памагаці і мы памагаем. І за хрысціны плацім, і за веселе плацім, і за мерліны плацім. Так у нас было ад вякоў і так павінно быць і цяпер". Ну і яна замоўкла. Я з табою, Баршчэўскі, згаджаюся, што нам праваслаўе патрэбнэ. І ўсяроўно чы хто з нас верыт, чы не верыт, але гэтэ праваслаўе ў нас тут было вечнэ то і мы яго павінны паддзержываць так як гэто рабілі бацькі, дзяды і прадзеды. Ну ты сам знаеш, што у нас тут, кроме бандарскага Яначка Буры то ніхто з папамі ні грызсе. То што говорыш, значыцца, што калі б у нас прапало б праваслаўе, то мы раз два сталіся б каталікамі, то гэто праўда. Але ж ні панятно, чом духоўныя мацней ні паддзержывают беларускага дзела.

Ну а пра ксяндзоў тут нашых то ўжэ німа што гаварыці. Ну ты вазьмі хоць гэтых нашых католікоў з Гарбароў чы з Боўтрык, чы з Юшкаваго Груда. Ты ж глянь на іх і паслухай. То ж і гаворат па-нашаму, і назвіска ў іх такіе як і ў нашых людзей, і морды такіе самы як у нас, а калі ему скажэш, што ён беларус, то ён табе ў очы наплюе. Калісь, помню, калі яшчэ жыў Ёзыб Казберук у Бандарах, то быў такі разгавор паміж ім і Хведаром Баршчэўскім з Рыбакоў. Ён вельмі моцна даказваў, што раз ён католік, то ён паляк. А Ёзыб ему кажэ: „Калі ты такі вялікі паляк, то скажы як будзе па-польску гойданка". А той ему кажэ: „качэлі". А Ёзыб ему на гэто: „От, бачыш Хведар, ты не паляк але рускі, бо качэлі то так называецца гойданка па-руску, а па-польску то гойданка называецца гусьтаўка". Ну то мы, знаеш, мужыкі з гэтаго Хведара то з паўгадзіны рагаталі, а после то нават яго качэлямі пpaзывалі. Ну а сколь гэта польскасць у нашых каталікоў узялася? Ад ксяндзоў, ад ксяндзоў, брацішку. Ксёндз ім кажду нідзелю ў голавы кладзе, што яны палякі і гаварыць па-польску прымушае. А ў касцёле то ні тое, што ў нас у цэркві. Там такая дзісцыпліна як у войску. Што скажэ ксёндз, то гэто святое. А ты знаеш, што ксёндзы жмут ужэ і на праваслаўных. От мне Зіна гаварыла, што ў Беластоку рэлігіі учат па-польску і ім у голавы убівают, што яны ніякіе ні беларусы, але палякі. Ну то сам бачыш, што гэто робіцца. Ад вякоў гаварылі нам, што мы рускіе, а цяпер будут гаварыць, што мы палякі. Ну пакуль што, то тут у Юшкавым Грудзе яшчэ такое дурноты ні гаворат, але хто гэто знае як яно ў будушчым будзе. Я ні знаю, чы гэто праўда, але мне гаварылі, што нібы то ў Лодзі, а можэ ў Варшаві, то ўжэ нашы заходзілі, каб разом з католікамі святкаваць Коляды і Вялікдзень. Можэ гэто ніпраўда, але калі праўда, то памаленьку будзе нам хана. Калі толькі перастанем аддзельно святкаваць святы праваслаўны і пачнем святкаваць разом з католікамі, то ніхто і не заўважыць, як хутко зробімся католікамі. І тады нам капут навекі".

**Алесь Барскі**

 

ПАРНАС

Чытальніцкая літсупольна на негарантаваных шляхах

## Мікалай Гайдук

Мікалай Гайдук,
Мой верны друг,
Гісторык, фалькларыст —
Пішу яму свой ліст:
Праўдзівы, вершаваны,
Гайдуку дэдыкаваны.
Варт нашай пахвалы
Ї добрай славы.
Ён вядомы ў Беларусі
Знаўца і прыхільнік Русі.
Так павінна быць —
З суседам трэба добра жыць.
Яго „Паратунак" —
Першы літаратурны гатунак.
Кожная яго кніга мае цікавы сюжэт
Падобны на прыгожы букет.
Адкрываюцца белыя плямы,
Адчыняюцца заіржавелыя брамы
Нашай гісторыі, рэчаіснасці,
Забытыя асабістасці
Герояў Вялікага княства Літоўскага
А не іншага — Маскоўскага.
Ён разам са сваёй Лідзіяй-паловай
Нёс і нясе навіны ў школу.
Бароніць беларускі люд,
Ваюе, адкідае розны бруд,
Што на яго долю выпадае —
Сам першыя ўдары прымае.
Чалавек набожны,
Хоць мо і не заможны.
Ды ён багаты чым іншым
Што нам здаецца лішнім:
Ён багаты як патрыёт,
Такі жыцця кругаварот.
Такіх не вельмі любяць
Ї не прыгалубяць.
Слушна вядзе барацьбу —
Свайго роду малацьбу.
Дай Божа табе сілы,
Друг мой мілы.

**Мікалай Панфілюк**

# Віраванка

1. беларускі народны танец, 2. кіраўнік музычнага спектакля, 3. багач, 4. водка, 5. польскі прэзідэнт, 6. вясельны пірог, 7. жаночае імя, 8. цыбульная расліна з буйнымі кветкамі, 9. колкае вастрыё, 10. здагадка, 11. напр. гаўбіца, 12. малая пасудзіна.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 20 н-ра:**

**Гарызантальна:** хвоя, дэман, гарэза, елка, завод, Дзвіна, Дзятлава, масаі, эканомія, мінчанка, чарка, лістапад, навела, колер, гаць, седала, кішка, Нант.

**Вертыкальна:** чэрава, калода, велатрэк, ягада, трава, дзень, дзівасіл, званочак, мама, Сена, эмір, ляда, каранцін, адоніс, кветка, палец, лекар, саган.

Кніжку высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Хто нарадзіўся ў ліпені

1. Дасціпны, добры, працавіты чалавек.
2. Яго жыццёвы размах можа быць абмежаваны шлюбнымі сувязямі.
3. Славалюбівы, верыць у лепшае заўтра — выдзяляецца артыстычнасцю.
4. Асцярожны, прадбачлівы, мае высокаразвітае пачуццё ўласнай індывідуальнасці.
5. Ужо ў маладосці праяўляе незвычайныя здольнасці.
6. Уражлівы, тонкі, пачуццёвы — патрапіць мірна супрацоўнічаць з іншымі.
7. Настойлівы, упарты — любіць жыць у дастатку.
8. Авалодае сваіх сяброў і пераможа ворагаў.
9. Мае моцную нервовую сістэму — кемлівы і любіць быць на чале.
10. Уражлівы на крытыку — любіць расказы і азартнае жыццё.
11. Уладны і імкнецца да незалежнасці.
12. Выбірае правільныя дарогі ў жыцці.
13. Часта мяняе прафесіі і шукае шчасце ў свеце.
14. Праяўляе ўсебаковыя зацікаўленні.
15. Мае рамантычны характар і выклікае добрае ўражанне.
16. Прадбачлівы, славалюбівы — часта мяняе свае погляды.
17. Праяўляе педагагічныя здольнасці, аднак — недаверлівы і цяжка яго зразумець.
18. Актыўны, незалежны — нічога не патрабуе.
19. Адухаўлёны, ліберальны — адароны літаратурнымі здольнасцямі.
20. Хаця часта мяняе настрой, але адданы працы.
21. Цікавіцца грамадскімі справамі і палітыкай.
22. Занадта ўвагі прысвячае сваёй асобе.
23. Трапна ацэньвае людзей і высока цэніць незалежнасць.
24. Здольны, энергічны, ганарысты, умее цешыцца жыццём.
25. Сяброўскі, сімпатычны, прагне адыгрываць вялікую ролю ў асяроддзі.
26. Нічым не турбуецца і дазваляе сабе на выхадкі.
27. З'яўляецца верным сябрам, але не ўмее прабачыць ворагу.
28. Разумны, хітры, горды — адзінотнік.
29. Упэўнены ў сваіх паступках, уладны, дзейнічае на іншых людзей.
30. Праяўляе арганізацыйныя здольнасці і можа заняць высокую пасаду.
31. Умела абараняе свае інтарэсы.

*Падрыхтаваў*
**Я. Целушэцкі**

# ЯК НІКОЛІ

Ехала я ў першую нядзелю лютага ў Гайнаўку. Было так, як заўсёды. На прыпынку стаяла трохі мужчын.

Прыехала наша „дрында", поўная народу. Хто вяртаўся з працы, хто ехаў на службу. На паўстанку ў Новым Беразове да нас далучылі мужчыны, што ехалі на працу ў горадзе. У Гайнаўцы кожны пайшоў у свой бок.

Я спачатку пайшла на рынак, што пры вуліцы 3 Мая.

— Вось бачыш, — пачула я пры браме, — ужо ў нас „рускіх" няма. Глянь, колькі іх сёння: чацвёра будзе, а рэшта — усё нашыя.

Гэта размаўлялі два пенсіянеры, якія выйшлі на прагулку, бо нічога не куплялі. Калі я пераходзіла вуліцу, старэйшы мужчына папярэдзіў мяне:

— Глядзіце, тут небяспечна, тут на гэтым месцы забіваюць! Тут шафёры не глядзяць, ідзе тут хто ці не, толькі дуюць „на поўны газ"! Нядаўна тут жанчыну збілі, нестаруе. Ведаеце, пазбягаліся кабеты, кажуць, што сама вінавата, бо ўлезла на вуліцу. А тут жа месца пазначана для пешаходаў! Цікава, што яны сказалі б, каб іх нейкі дурань пакалечыў!

— Дзіўна, — падумала я, — і ўсё так насупраць раённай палікліпікі?

— Вось бачыце, якая цяпер у людзей нячуласць! — адказала я прахожаму.

— Праўда, усюды адно хамства! — сказаў мужчына і пабег па сваіх справах.

Купіўшы, што трэба, я сабралася на вакзал, хаця да ад'езду аўтобуса было шмат часу. Пры касе не было вялікай чаргі. На вуліцы маразіла, і я рашыла пастаяць у чакальнай зале. Да мяне далучылася пажылая жанчына з унучкай. Пачала бабуля расказваць пра сваё жыццё-быццё, распытваць пра мае справы. Калі аўтобус пад'ехаў, пасажыры кінуліся ўлазіць. А месцаў хапіла б кожнаму! Мне пашанцавала — села. Нядоўга я цешылася спакоем — пачаўся лямант: абакралі ў сціску дзяўчыну. Шафёр параіў ёй патэлефанаваць у паліцыю. Паліцыянты прыехалі праз хвілін пятнаццаць. Усім сказалі выйсці з аўтобуса, пільна яго агледзелі, але не кантралявалі нікога. Кашалёк не знайшлі. Цэлая дзяўчыніна „куранёўка" дасталася злодзею, які, можа, спакойна потым сеў у аўтобус.

— Невядома ж, дзе яе абакралі, — перагаворваліся пасажыры. — Цяпер такія „спецы", што на вачах чалавека возьмуць!

Урэшце дазволілі нам увайсці ў астылы аўтобус. На гэты раз прыйшлося мне пастаяць.

**Аўрора**

## Пад якім сузор'ем

**Рак. 22 чэрвеня—22 ліпеня.**

Мужчына, народжаны пад гэтым сузор'ем, вельмі любіць хатні спакой, выгоды, для яго сям'я і дзеці — жыццёвая патрэба. Не любіць ён вясёлых кампаній, людзей, якія робяць шум вакол сваёй асобы. Найлепш укладаецца ў яго жыццё з людзьмі з-пад знака Скарпіёна і Рыбы.

Жанчына з-пад знака Рака мае багатую, глыбокую, адухоўленую натуру. Для яе псіхічнае жыццё мае вялікае значэнне. Яна значна лепшая апякунка, чым партнёрша да фліртаў і гульняў. Яна вельмі прывязваецца да рэчаў, ахвотна збірае калекцыі. Любіць дом, але і падарожжы. Нейкім дзіўным спосабам спалучае ў сабе гэтыя дзве зусім розныя схільнасці. Найбольш падабаюцца ёй мужчыны з-пад знака Скарпіёна і Рыбы. Шчаслівы дзень — панядзелак, месяц — студзень, колер — фіялетавы, каштоўны камяні — тапаз, агат, кветка — ландыш.

**Леў. 23 ліпеня—23 жніўня.**

Мужчына, народжаны пад гэтым сузор'ем, мае тыпова мужчынскі характар: моцную волю, мае схільнасці да моцных перажыванняў. У хвілінах злосці не пануе над сабой. Вельмі добра ў яго ўкладаецца жыццё з жанчынамі з-пад знака Барана і Стральца.

Жанчына, народжаная пад знакам Льва, абдароўвае свайго выбранага пачуццём гарачым, але нетрывалым. Імкнецца заўсёды трымаць уладу над сваім партнёрам, калі раз расчаруецца ў ім, ніколі да яго не вернецца. Яна моцна верыць ва ўласныя сілы і ў дабрату людзей, з якімі звязвае свой лёс. Шчаслівы дзень — нядзеля, месяц — люты, колеры — залаты і сіні, каштоўны камень — рубін, кветка — ружа.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніўся мне страшны і непрыемны сон. Быццам я на магільніку. На надмагіллі майго мужа стаіць унітаз. Плаваюць у ім нечысці. Потым раптам з унітаза выплывае брудная вада, потым надмагілле пачынае падымацца. Мы з сястрой пачынаем ўцякаць. Бяжым да майго бацькі, хаваемся ў хаце. Муж прыходзіць у наш дом. Потым бацька нам кажа, што быў ён акуратна апранутыя, у касцюме, добра выглядаў, і пакрыўдзіўся, што мы ўцяклі, ды цяпер збіраецца ехаць за мяжу.

**Зося**

Снілася мне, што ўваходжу на нейкую вежу, падобную трыянгуляцыйным вышкам, з вялікаю кветкаю ў руках, у вялікім гаршку. Узлажу на самы верх і тут раптам бах, гаршчок падае ўніз, у руках у мяне толькі расліна. На нізе сталі людзі, спалохаліся і вельмі здзівіліся, калі ўпаў гэты гаршчок, паказвалі на мяне, штосьці крычалі.

**Зіна**

Зося! Мела быць так добра і спакойна. Але гэты твой спакой парушыць нейкая брудная справа, якая будзе датычыць цябе, а можа і тваёй сястры, бо ж вы разам з ёю ўцякалі ад гэтых нечысцяў і падымаючайся магілы. Або нехта падложыць вам свінню, або абліе памыямі. Клопат будзе так ці так.

Зіна! Твой сон гаворыць аб тым, што ёсць у тваім жыцці нейкія цяжкасці. Перш за ўсё ты ўзлазіла наверх, на нейкую вежу. Ну, узлезла, і таксама, як у Зосі, мела ўжо быць усё добра, нават у руках ты трымала вазон, а тут, бачыш, гаршчок зваліўся ўніз, а ў руках засталася толькі кветка. Будзе нейкі промах у тваіх нялёгкіх справах.

**Астрон**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, ЯўгенМіраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a w IV kwartale — 15,40 złotych (154 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

### ДЫЕТА ПАДВЯЛА

Прашу я, доктар, прабачэння:
Ваш надакучлы курс лячэння.
Вы прапісалі мне дыету.
Яна зжыве мяне са свету.

Напрыклад, выпадак вось гэткі:
Зайшоў учора да суседкі.
Ласкавы, добры к ёй з'явіўся,
А вось чаго прыйшоў — забыўся.

Суседка ходзіць так увішна,
І сакавітая, як вішня!
А мой настрой дыета збіла,
Суседка нават мне няміла.

А вось калі б я выпіў чарку,
Уплёў у ахвоту з кіло скваркі,
Тады б, відаць, я не забыўся,
Чаго к суседцы заблудзіўся.

**Мікола Вяршынін**

## Думкі ўслых

* Яго аўтэнтычнасць вынікала з няўмелай капіроўкі.
* Апошняя заслона — павекі.
* СНІД — колькасць хвароб перайшла ў якасць.
* Пахудзеў ад страху, каб яго шэф не бачыў у ім наследніка на сваю пасаду.
* Калі дакладна мыюць рукі, тады навошта пяруць ручнікі?
* Макароны — адзіная страва, якою можна наесціся за адным адкрыццём рота.

**Адам Сяменчык**






Мал. П .Козіча

# Спадар Капытоўскі

Я жыву тут не вельмі даўно. Пераехалі сюды з Чарнобыльскай зоны, з Хойніцкага раёна. Патрохі знаёмлюся з гэтак мовіць, абарыгенамі. Не ўсіх яшчэ ведаю ў вёсцы. Наогул народ тут добры, спагадлівы... Стаім неяк з мужыкамі, курым.

— Вунь Капытоўскі пашыбаваў.

Усе заўсміхаліся. Міма прайшоў мужычок невялікага росту. Адметны — на лбе вялікі месяцападобны шрам.

Капытоўскі, дык Капытоўскі... Буду ведаць.

Праз некаторы час сустрэліся на вуліцы.

— Добры дзень, спадар Капытоўскі, — прывітаўся я.

Ён паглядзеў на мяне неяк здзіўлена, нічога не адказаў... Другі раз у магазіне ў чарзе па хлеб я запытаўся:

— Вы апошні, Капытоўскі?

Тут уся чарга азірнулася на мяне. „Што такое?" — думаю.

Аднаго разу на машынным двары я выпраўляў малатком борт грузавіка. Лупіў на ўсю моц... Падыходзіць Капытоўскі. Здаецца, нападпітку. Толькі я хацеў прывітацца, здароў, маўляў, спадар Капытоўскі... А ён схапіў мяне за грудзі:

— Ты навалач... Калі будзеш яшчэ абражаць!.. — потым глянуў на малаток у маёй руцэ, адпусціў.

Усе смяюцца... Нічога не разумею: калі я яго абразіў? Тут Косцік Цябус, самы разумны з трактарыстаў, тлумачыць:

— Гэта ж мянушка ў яго такая — Капытоўскі. Ён вельмі крыўдзіцца на яе. Сапраўднае прозвішча яго — Сідаровіч... Колькі гадоў таму ён, п'яны, узяўся бароцца з калгасным бычком. Малады яшчэ бычок, два гады, але ўраз паваліў Сідаровіча і — нагой наступіў на лоб. Бачыў адмеціну? З тае пары — Капытоўскі ды Капытоўскі...

**Васіль Феранц**




Мал. М. Гіргеля

# Смех у санаторыі

— Ці былі ўчора на пахаванні сакратара ЦК?
— Быў. Гэта вялікая страта...
— Ты хіба здурэў!
— Не. Падумай толькі сабе, што за тыя грошы можна было б пахаваць усю вёску.

* * *

Арыштавалі Кавальскага, радавога міліцыянера, які ў кампаніі па-п'янаму прагаварыўся, што яго начальнік — тупіца. Адбыўся працэс і небараку засудзілі на 10 гадоў турмы: два гады за абразу начальніка і восем гадоў за выяўленне дзяржаўнай тайны.

* * *

Візіт папы рымскага ў Польшчу. Два ксяндзы, што стаяць ва ўрачыстым строі, сустракаюцца позіркам.
— Адкуль я вас, вялебны ойча, знаю? — пытае адзін.
— Як гэта адкуль, мы ж разам працуем у другім камісарыяце.

* * *

Савет і амерыканец хваляцца сваім дабрабытам.
— У мяне дома тры самаходы, — гаворыць амерыканец, — адным езджу на працу, другім жонка ездзіць за пакупкамі, а трэцім супольна наведваем сяброў.
— Я маю толькі два самаходы, — сказаў савет, апусціўшы галаву, — адным езджу на працу, а другім жонка ездзіць за пакупкамі.
— А на чым ездзіце да сяброў?
— Да сяброў ездзім танкам.

* * *

Пасажырскі лайнер ляціць над Атлантыкай.
— Ці бачыў ты нашу новую сцюардэсу? — пытаецца капітан навігатара.
— Яшчэ не. Пайду гляну.
Праз гадзіну вяртаецца.
— Ведаеш што, яна вельмі добрая; лепшая ад маёй жонкі.
— Калі так яе хваліш, то і я пагляджу, — кажа капітан.
Праз гадзіну вяртаецца:
— Маеш рацыю: яна лепшая ад тваёй жонкі.

* * *

Па маскоўскаму радыё ідзе ранняя перадача.
— Таварыш Брэжнеў ужо ўстаў дык і вы, таварышы, уставайце.
— Таварыш Брэжнеў гімнастыкуецца і вы гімнастыкуйцеся.
— Таварыш Брэжнеў мыецца дык і вы мыйцеся.
– Таварыш Брэжнеў есць снеданне дык і вы паслухайце музыку.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Мілае Сэрцайка! Хлопец вучыцца ў іншай школе. Калісь прыйшоў да мяне з маёй сяброўкай. Пазнаёміліся яны на нейкай экскурсіі і пачалі хадзіць. Мне сяброўка сказала, што яна да яго адносіцца даволі холадна але ён... проста жыць без яе не можа.

Як глянула я на гэтага хлопца, дык зусім страціла спакой. Божа, што за хлопец! Як яна можа яго не кахаць! Ну, каб гэта ды мне такога... Статны, разумны, прыгожы.

Не вылазіў мне з галавы цэлы наступны тыдзень. А сяброўка з ім больш не прыходзіла і нідзе я яго не сустрэла. Проста не ведала я, што са мною сталася. Не магла спаць па начах. Усё марыла пра яго. Уяўляла сабе, як добра было б, калі б ён быў мой. Як я б яго кахала і ласкала. Для такога варта было б зрабіць усё!

А праз тыдзень глянула я ў вакно, а было гэта пасля поўдня, калі я прыйшла ўжо са школы, бачу: ідзе! Ішоў ён проста па вуліцы, не да мяне, вядома, бо ўжо мінуў мой дом. Я, як стаяла, накінула на сябе куртку і выскачыла за ім на вуліцу. Гляджу, а ён ужо павярнуў у нашу краму з самаабслугоўваннем. І я — туды. Увайшла, а пры сабе — ні кашалька, ні сумкі. Узяла кошык, хаджу, аглядаю тавары.

І раптам — проста на яго. Прывіталіся. Быў задаволены, што сустрэў мяне. Я запрасіла яго дахаты, сказаўшы, што зраблю пакупкі пазней.

Быў вельмі мілы. Мне нават здалося, што і ён нешта адчувае да мяне. Мы гаварылі пра многае. Ён мне сказаў, што з той маёй сяброўкай ён не ходзіць, а толькі сябруе. Нават ні разу яе не пацалаваў. А не зрабіў гэтага не таму, што яна гэтага не хацела, а толькі і выключна таму, што звычайных сябровак не цалуе і не мае звычаю раздаваць свае пацалункі направа і налева.

Паслухай, Сэрцайка, а мяне на развітанне цмокнуў у шчаку! І так мы пачалі сустракацца. Убачыла нас разам тая сяброўка. І назаўтра да мяне з брыдкімі словамі. Як я магла, бессаромная, сяброўцы хлопца адбіваю.

А ты ж казала, што да яго нічога не адчуваеш, кажу я. Што толькі ён у цябе закаханы без памяці...

Ну, і вось выйшаў які канфуз. Сяброўка са мной не гаворыць. Горш таго, нават яе бацькі адварочваюцца ад мяне. За што? Хлопец упарта паўтарае, што заходзіў да іх, бо наведваў сяброўку, а не нарачоную. Не разумее, чаго яны ад яго хочуць.

Мне прыкра, але я не маю найменшага намеру парываць з маім хлопцам. Ён ейны, бадай, ніколі не быў, а калі і быў, дык, відаць, перастала яму падабацца.

А як ты, Сэрцайка, думаеш, ці мая сяброўка мае падставы не адзывацца да мяне?

**Ірка**

Ірка! Твая сяброўка проста зайздросная, што ты адбіла ў яе хлопца. Хто яго ведае, як там было, але яна лічыла яго сваім. Ёсць многа дзяўчат і хлопцаў, якія хваляцца, што нікога не кахаюць, што не даюць спакою толькі ім, бо яны такія каханыя. Залішняя ганарлівасць. Жыццё нясе з сабой шмат неспадзяванак, і лепш было б паводзіць сябе скромна.

Мо твая сяброўка проста хацела пахваліцца перад табою, што яна тут дырыгуе, адкідае, калі хоча, каханне. А можа і сапраўды так было, што хлопец ёй не надта падабаўся, а пачала шалець ад зайздрасці, калі страціла яго. Так здараецца надта часта.

Што датычыцца тваёй паставы, дык з упэўненасцю магу сцвердзіць адно: — ты чалавек надта энергічны. І прыдумала ж ты збегаць у краму! Ну, малайчына! Будуць з цябе людзі. Калі злавіла аднаго, дык зловіш і наступнага. Толькі глядзі, бо можаш трапіць на больш баявітую сяброўку, якая не толькі перастане адзывацца, але і табе пашкодзіць у шмат чым зможа. Не згадаць свайго лёсу ў сардэчных справах!

**Сэрцайка**